# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

13 сьнежня 2000 №36 кошт 1 літ

Перад Калядамі людзі рыхтаваліся да сьвята, "калолі" сьвіней, каб пасьля посту - на Раство Хрыстовае - былі кілбасы, мяса, а на Шчадруху(вечар перад Новым Годам), абавязкова была печаная "кішка", якую напіхвалі пацёртай, запраўленай скваркамі бульбай ды ставілі пячыся ў печку. На "багатай вячэры" - гэта была найважнейшая ды найсмачнейшая страва.

Перад Раством жанчыны чысьцілі хата, бялілі печкі, забельвалі мейсцамі пабруджаныя сьцены (усю хату бялілі вясною перад Вялікаднем). У некаторых дамох па-мастацку зроб- сетккі рэшата давалі празрыстую, намазаную маслам паперу. На ёй папярэдне наклейвалі "ясьлі": народжаны Ісус Хрыстос з маткай Марыяй і Язэпам. Каля дзіцятка кленчылі мудрацы-каралі й пастушкі. Вакол "ясьляў" наклейвалі галоўкі крылатых анёльчыкаў ды зоркі, найбольшая зь якіх зьзяла над "яськямі". У рэшата за "ясьлямі" ставілася запаленая сьвечка, і ўвесь абразор нараджэньня дзіцяткі Бога-Чалавека быў паказаны як на экране тэлевізара. Батлейкі былі яшчэ цікавейшыя, зробленыя з мудрэйшаю тэхнікаю. Да "ясьляў" аддаць славу Хрысту разьвешвалі на елачныя галінкі. (Пасьля, на Раство, імі частаваліся)

На Куцьцю зранку маці пякла посныя й скаромныя булкі й смачныя коржыкі на елку, якіх, як і нічога скаромнага, нельга было есьці нават дзецям аж да Раства. Надвечар, як на небе зьяўлялася вялікая зорка - Вэнэра, якая калісь паказвала мудрацам і пастушкам мейсца, дзе нарадзіўся Хрыстос, рыхтавалася Сьвятая Вячэра, якая й называецца Куцьцёй. Тата прыносіў у рэсках з клуні сена, раскладаў яго на стале, маці засьцілала на сена белы абрус. У гэткі спосаб рабіліся "ясьлі" для дзіцяткі - Хрыста. На так засланы стол ставілася 12 посных стравы: смажаная ў муцэ рыба, намочаныя ў жытнім квасе селядцы, прыстрояныя скрыльцамі цыбулі, смажаныя ўюны, ламанцы з макам і цукрам, ячменная, таксама з макам і цукрам, куцьця, вараныя сушоныя грыбы, яблыкі ды розная іншая садавіна. Сустрэць сьвята была й бутэлечка "чыстае" й вішнёвы сок для дзяцей. (Гарэлка ў нас у хаце бывала толькі на Каляды, Вялікадзень і калі трэба было "піць барыш" - калі нешта вялікае куплялася, напрыклад, конь ці карова, ці прадавалася). Перад вячэрай мы, дзеці, павінныя былі стаць перад аб-



Мастачка Т. А. Мельянец

# Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся!

ленымі з паперы кветкамі аздаблялі абразы. Дзеці-ж рабілі елачныя забаўкі-цацкі. Быў гэта перад Калядамі для дзяцей найпрыемнейшы й найцікавейшы занятак. У крамах куплялі мы бліскучыя жывымі колерамі лісты таўстой і танюткай паперы, куплялі рознай велічыні галоўкі анёльчыкаў і залацістыя зоркі, - усё гэтае было патрэбнае для вырабу цацак. Хлапцы-ж тым часам рабілі калядныя зоркі й батлейкі. Для зоркі неабходна было дастаць рэшата. Наўкол рэшата наклейваліся адпаведна змайстраваныя "праменьні", бо пэўне-ж зорка прамянее. Заміж ўсьцяж падыходзілі то "каралі", то "пастушкі", а то і "мудрацы" з падарункамі, - вось вам і народнае мастацтва-кіно. А на Шчадруху яшчэ й тэатар: дзеці й моладзь прадстаўлялі абразкі з падзеяў нараджэньня Хрыста.

Ды ў падрыхтоўцы да Раства найважнейшае было яшчэ наперадзе: Куцьця - Сьвяты Вечар. Гэтым днём Дзед Мароз прывозіў дзецям зь лесу елачку. Тата ўстаўляў яе ў калодку, каб елачка магла стройна стаяць на падлозе. Дзеці з маткай убіралі елачку, а тата ехаў у горад, каб купіць шакаладных цукерак, якія мы разам з цацкамі разамі на калені і ў голас гаварыць малітвы, найважнейшая зь якіх была малітва "за ўпакой" нашых дзядоў. Бацькі маліліся стоячы, паціху. Пасьля малітвы ўсе сядалі пры стале на вячэру. У часе вячэры пад вокны прыходзілі калядоўшчыкі, тады мы адвешвалі з вакна занавеску, каб бачыць прыгожую "зорку" ці цікавую батлейку. Калядоўшчыкі пялі калядку, пасьля якое адзін зь іх голасна рэцытаваў прывітаньні са сьвятамі й пажаданьні гаспадаром і сям'і. За гэта калядоўшчыкам выносілі падарункі ў выглядзе грошай. Калядоўшчыкаў за вечар прыходзіла некалькі групаў з рознымі "зоркамі" й рознымі калядкамі, і ўсе яны стараліся, каб іхныя зорка й калядка былі найпрыгажэйшыя. Пад канец вячэры запальвалі на ёлцы каляровыя сьвечачкі. І мы з захапленьнем глядзелі на сваё, гэтак сказаць, уласнае мастацтва: на прыгожа аздобленую нашымі рукамі ялінку, асьветленую рознакаляровымі васковымі сьвечачкамі.

Па вячэры ўсе йшлі на адпачынак, каб бацьком і старэйшым дзецям на 4-ую гадзіну ранічкі схадзіць у царкву. І гэта таксама было нашэтадзённай урачыстасьцю. У царкве гарэла электрычнае сьвятло й маса агеньчыкаў васковых сьвечак. Добры хор заліваў храм урачыстым пяяньнем, напаўняючы душы вернікаў невымоўнай радасьцю:

*Неба й зямля, неба й зямля*
*Радасна сьпяваюць.*
*Анялы сьвету, анялы сьвету*
*Дзіва абвяшчаюць:*
*Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся...*

Сьвята Раства трывала тры дні. На першы дзень людзі з раніцы пасьля начной багаслужбы адпачывалі, а ўвечары або прымалі гасьцей, або самыя йшлі ў госьці - залежыла, хто першы запрасіў. На заўтра зноў была багаслужба ў царкве, а таксама госьці-адведзіны. Моладзь зьбіралася ў нечыяй большай хаце на вечарынку. Пасьля трэцяга дня сьвятаў можна было ўжо працаваць, але вечары да Вадохрышчаў былі "сьвятыя": нельга было "ані шыці, ані праці, ані кросны ткаці". Жанчыны й маладзіцы зьбіраліся на вячоркі пагаварыць, прыемна ў кампаніі прабавіць час, некаторыя вязалі рукавічкі, шкарпэткі ці шалікі. Вязаць у сьвятыя вечары было дазволена.

Ад Калядаў да Новага Году было толькі 4 дні. І да яго людзі зноў рыхтаваліся. Гатавалася багатая вячэра на Шчадруху. Моладзь рыхтавала сцэнічныя абразкі, дзейнамі асобамі якіх былі страшны Ірад, жыд, цыган, анёл, ды хто толькі... На Шчадруху, яшчэ завідна, моладзь заходзіла ў хаты паказваць сваё майстэрства, за што атрымоўвала ад гаспадароў плату. Апрача моладзі прыходзілі "пярэбраныя". Гэта ўжо былі дарослыя. Яны апраналіся, як на маскарадны баль, у розныя экзатычныя касьцюмы, найчасьцей пераапраналіся ў цыганак і цыганоў. "Пярэбраныя" ўвальваліся ў хату, сьмяяліся, жартавалі, чапляліся да бацькоў, каб паваражыць. За імі трэба было сачыць, бо на Шчадруху "пярэбраныя" мелі права непрыкметна ўзяць усё, што ім спадабалася-б. На Шчадруху - у Шчодры Вечар - абавязкова была "багатая вячэра": пячоная бульбяная кішка, мясы ды салодкія прысмакі, зь якіх найцікавейшыя былі "хрусты". На Шчадруху, перад Новым Годам, дзяўчаты зьбіраліся варажыць у розныя варожбы, каб даведацца, ці выйдуць на гэты год замуж, ці не.

6 студзеня былі Вадохрышчы. На Вадохрышчы пасьля багаслужбы ў царкве Крэсны Ход ішоў да мяйсцовае ракі. Незважаючы на "хрышчэнскія маразы", над ракой адбывалася багаслужба, сьвятар сьвяньціў у палонцы ваду, якую людзі, як сьвянцоную, набіралі ў бутэлькі й неслі дамоў. У часе сьвянчэньня вады людзі выпускалі прынесеныя у кошыках галубы, што кружлялі над ракой.

Сьвяточная вячэра на Вадохрышча называлася "Другая Куцьця", падобная да першай. На другі дзень пасьля Вадохрышчаў зь вялікім сумам зьнімалі мы зь елкі, зь якой асыпаліся ўжо голкі, цацкі й выносілі елку з хаты. Пасьля Вадохрышчаў пачынаўся "мясаед", які цягнуўся да Вялікага Посту перад Вялікаднем.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*Юры Весялкоўскі*

## ПАКЛАНІЦЦА СЫНУ-БОГУ

*Над Бэтлеем зорка зьзяла,*
*Сьвету радасьць абвяшчала*
*І паказвала дарогу*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*
*"Слава ў вышніх..." там сьпявалі*
*І ад сну людзей збуджалі,*
*Тых, хто ўстаў, хоць праз зьнямогу*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*
*Пастушкі сьпярша пачулі,*
*Песьні зь неба іх кранулі,*
*Пасьпяшаліся ў дарогу*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*
*А з другога племя-роду*
*Мудрацы ішлі з Усходу,*
*Дары несьлі, дапамогу,*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*
*Толькі Ірад, цар Юдэі,*
*Не жадаў сьвятой ідэі,*
*Чуўён тут сваю трывогу*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*
*Вернікі аднак сьвяткуюць*
*Сьветлы Дзень Раства шануюць*
*І абраднасьці вымогу*
*Пакланіцца Сыну-Богу.*



Французская паштоўка 1862 г.

## Рэгіянальная сустрэча

"Беларусь і Цэнтральна-Ўсходняя Эўропа: ствараем і абараняем грамадзянскую супольнасьць" Цэнтраў Плюралізму адбылася 6-7 лістапада ў Вільні. Ейнымі арганізатарамі былі наш Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" й Цэнтар "Супольнасьць" (Менск). На жаль, гэтая імпрэза ня сталася такой прадстаўнічай, як таго хацелася ейным арганізатарам, з той прычыны, што на яе не прыйшлі запрошаныя літоўскія парлямантары. Відаць, левыя з партыі Паўлаўскаса й лібэралы з партыі Паксаса яшчэ ня выпрацавалі дактрыну, як ставіцца да існуючага ў Беларусі рэжыму й да беларускай апазыцыі. Пра гэтае сьведчаць і апошнія выказваньні Паўлаўскаса ды іншых дэпутатаў цяперашняга Сойму наконт "сяброўства з Лукашэнкам".

А. М.

## Выстава

віленскага беларускага мастака Ул. Кузьменкі была зладжаная сябрамі Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" 6 лістапада. На выставе пабывалі як віленчукі, так і госьці з Украіны, Чэхіі, Польшчы, Беларусі, Эстоніі, - удзельнікі рэгіянальнай сустрэчы гэтак званых Цэнтраў Плюралізму.

Калі глядзіш на ягоныя краявіды, здаецца, што блукаеш разам зь ім па маляўнічых берагах Вяльлі, Віленкі, Шальчы, удыхаеш пахі лесу, водар кветак і травы, ступаеш па нагрэтым сонцу пяску сьцяжынак, адчуваеш спакойную годнасьць дрэваў і валуноў.

Аўтар гэтых дзівосных краявідаў, Уладзімір Кузьменка, нарадзіўся ў 1935 г. У 1953 г. пачаў вучыцца ў Менскай мастацкай школе, пасьля паступіў у Менскі мастацкі інстытут, дзе займаўся рысаваньнем і графікай.

Натхненьне У. Кузьменка чэрпае выключна з натуры - залішняя фантазія ня ёсьць ягонай стыхія. І малюе ён пераважна на прыродзе (нячаста сёньня сустрэнеш у жывапісных ваколіцах Вільні мастака , які малюе "з натуры"). Пейзаж - улюбёны жанр мастака. Ён лічыць, што чалавек - дзіця прыроды, які, нібыта дрэва або кветка, павінны быць вольны ў сваім росьце й высьпяваньні, у жыцьці й сьмерці. Таму Ул. Кузьменка ня малюе негарманічных, пакалечаных чалавекам краявідаў. Свабода - вось найвялікшая каштоўнасьць.

Тацяна Калбекіна



**Сьнежань** Маст. Ул. Кузьменка

## У капліцы Вострай Брамы

з 11 па 19 лістапада праводзіліся Дні апекі найсьвяцейшай Маткі Боскай Вострабрамскай.

Паводле графіку набажэнстваў 14 лістапада аб 13.00 адбылася сьвятая імша для вернікаў зь Беларусі й беларусаў Літвы. Людзей было шмат. Рэй вялі прыхаджане касьцёлу Сьв. Барталамэя на чале з ксяндзом Янам Шуткевічам. Дзеці зь беларускай школы, студэнты зь беларускай катэдры Віленскага пэдунівэрсытэту шчыра маліліся перад цудатворным абразам, сьпявалі й прасілі Матку Боскую Вастрабрамскую заступіцца за Беларусь і ейны народ. Падумалася, што калі набажэнства ў каплічцы Вострай Брамы праводзіцца па-беларуску, дык з Божай дапамогай беларускі народ здабудзе свабоду, а Беларусь станецца незалежнай краінай.

Юры Гіль

## У Віленскай сярэдняй школе

ймя Ф. Скарыны вучні, настаўнікі, прадстаўнікі беларускай грамадзкасьці Вільні адзначалі 24 лістапада 70-годзьдзе з дня нараджэньня славутага беларускага пісьменьніка Уладзіміра Караткевіча. У невялікай утульнай школьнай залі гучалі ўспаміны пра У. Караткевіча, вучні й вучаніцы 9-12 клясы Натальля Бука, Тацяна Дашкевіч, Зьмітрок Рачушынскі, Павал Сівалаў дэклямавалі ягоныя вершы. Выкладчыца беларускай катэдры пры Віленскім пэдунівэрсытэце спн. Ніна Пяткевіч распавяла пра жыцьцёвы й творчы шлях пісьменьніка. Асабліва запомніліся ўспаміны спн. Галіны Войцік, прадстаўніцы старой віленскай інтэлігенцыі, пісьменьніцы. Яна сустракалася з У. Караткевічам падчас ягоных прыездаў у Вільню. Сьвяткаваньне ўгодкаў пісьменьніка працягвалася ў панядзелак, 27 лістапада. Вучнямі 7-ай і 12-ай клясы Дашай Ваўчок, Косьцем Сарокіным, Ганнай Рэўкам і Паўлам Сівалавым былі пастаўленыя ўрыўкі з раману "Каласы пад сярпом тваім" (пастаноўка настаўніцы роднай мовы Ал. Базюк, музыка настаўніцы сьпеву Вал. Кавальчук). На другім вялікім перапынку таго самага дня пад бел-чырвонабелым сьцягам адзначалі Дзень Герояў - 80-ую гадавіну Слуцкага збройнага чыну. Натальля Бука зрабіла кароткі экскурс у гісторыю, распавяла пра легендарныя падзеі 1920 г. Сяміклясьнікі выканалі марш "Разьвітаньне", а дуэт хлопцаў старэйшых клясаў выканаў песьню на словы Натальлі Арсеньневай "У бой за Случчыну".

*Вучаніца 12 кл.* Натальля Путкова

## У дамкох ТБК

адзначалася 26 лістапада 80-годзьдзе Слуцкага збройнага чыну, а заразам і 70-годзьдзе з дня нараджэньня пісьменьніка Уладзіміра Караткевіча. Зьмястоўныя даклады прачыталі Павал Саўчанка (падрабязная гісторыя Слуцкага збройнага чыну) й Лілея Сазанавец (творчы й жыцьцёвы лёс Ул. Караткевіча). Зь цікавымі заўвагамі й дапаўненьнямі выступілі Леакадзія Мілаш і Сямён Шарэцкі (ягоны гістарычны артыкул пра Слуцкі збройны чын чытайце на ст. 4 газэты). У залі прысутнічала шмат беларусаў-віленчукоў, былі госьці зь Беларусі й замежжа.

А. М.

## У архівах Літвы

болей тыдня працавалі супрацоўнікі Браслаўскага музэю Кастусь Шыдлоўскі й Алесь Папцялейка. Яны зьбіралі матар'ялы пра выдатнага лекара Станіслава Нарбута (1853-1926), малодшага сына таленавітага вайсковага інжынера, гісторыка, археоляга, краязнаўца Тэадора Нарбута (1784-1864). Станіслаў Нарбут адна з найбольш яскравых постацяў гісторыі Браслава. Ён пражыў у мястэчку амаль трыццаць гадоў і заслужыў славу ня толькі таленавітага, адданага сваёй справе лекара, але й грамадзкага дзеяча, гуманіста. У 1872 г. ён скончыў Мюнхенскі унівэрсытэт, аднак каб працаваць мэдыкам у Расеі, трэба было мець расейскі дыплём, і ён скончыў яшчэ й Юр'еўскі (цяпер Тартускі) унівэрсытэт. Пахаваны Станіслаў Нарбут на Замкавай гары ў Браславе, на ягонай магіле пастаўлены помнік, каторы зьяўляецца візытнай карткай мястэчка. Дасьледчыкі з Браслаўскага музэю зьбіралі ў віленскіх архівах таксама матар'ялы з гісторыі такіх вядомых мястэчак Браслаўскага краю, як Опса, Відзы, Друя ды інш., а зараз рыхтуюць да выпуску кнігі, прысьвечаныя малым мястэчкам краю.

Павал Саўчанка

## Адкрыцьцё мэмарыяльнай дошкі

Ф. Багушэвічу ў Рукойнах адбудзецца ўвесну наступнага году. Пра гэта арганізатарам мерапрыемства, сябрам Таварыства беларускай мовы Віленскага краю, паведаміла віцэ-мэр Віленскага раёну Тэрэса Тарамонава. Амбасадар РБ у Літве сп. Ул. Гаркун ужо паабяцаў далучыцца да ўрачыстага адкрыцьця таблiцы, фінансава дапамагчы арганізатарам. Просьба да ўсіх ахвочых далучыцца да гэтае справы званіць па тэлефоне ў Вільні: *41 99 92*.

*Старшыня ТБМ Віленскага Краю*

Юры Гіль



**Вільня зімой** Маст. Ул. Кузьменка

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

# Там, дзе мяне няма...





*Кожны, хто піша ўспаміны, павінен усьведамляць, што памяць людзкая часта падводзіць і што рэальныя факты жыцьця замяняюцца выдумкай. Нездарма Гётэ назваў свой біяграфічны раман "Dichtung und Wahrheit" ("Выдумка й праўда"). Пэрспэктыва часу таксама ўносіць свае "папраўкі", на ўласныя ўспаміны накладаюцца аповяды блізкіх... І калі я сягоньня, пачаўшы восьмы дзясятак свайго веку, пішу пра так далёкае дзяцінства, пра людзей і падзеі, дык я ацэньваю ўсё з улікам часу.*

## 1. Мая сям'я

Мае бацькі, Людвіка й Антон Войцікі былі людзі вельмі адрозныя сваім сацыяльным паходжаньнем, выхаваньнем, адукацыяй. Людвіка Войцік (дзявочае прозьвішча Сівіцкая, яна-ж - пісьменьніца Зоська Верас) паходзіла са старой шляхоцкай сям'і. Сярод ейных продкаў было шмат адукаваных людзей, якія вялі грамадзка-асьветніцкую працу. Бацька, Антон Сівіцкі, быў афіцэрам царскай арміі, любіў літаратуру, ягонымі ўлюбёнымі паэтамі былі Адам Міцкевіч і Уладыслаў Сыракомля. Ён першы вучыў дачку выказваць словамі тое, што яна перажыла, бачыла. Маці, Эмілія Сівіцкая, добра ведала нямецкую й францускую мовы. Дома гаварылі па-польску, але Антон Сівіцкі не ўважаў сябе за паляка. "Я ліцьвін!" - з гонарам казаў ён. Людвіка Сівіцкая вучылася ў прыватнай гандлёвай школе ў Кіеве (бацька служыў тады на Украіне), а пасьля раптоўнай сьмерці бацькі вярнулася з маці ў Гародню (адкуль бацька паходзіў) і вучылася ў прыватнай гімназіі, хаця як дачка афіцэра й паводле папераў "дваранка" магда бясплатна вучыцца ў "Институте благородных девиц". Пасьля заканчэньня гімназіі паехала ў Варшаву на Курсы агародніцтва й садаводзтва, якія закончыла перад І-ай Сусьветнай вайной. Калі фронт падкаціў пад фальварак дзеда Людвіка Садоўскага, дзе Людвіка жыла са сваёй маці, яны з многімі бежанцамі апынуліся ў Менску. Яшчэ ў Гародні Л. Сівіцкая далучылася да беларускага руху, пачала пісаць вершы, пару зь якіх былі надрукаваныя ў "Нашай Ніве". У Менску працавала ў Камітэце помачы ахвярам вайны, загадчыцай сталоўкі, дзіцячага прытулку, арганізавала ткальні, дзе маглі працаваць і нешта зарабляць вясковыя жанчыны. У Менску яна пазнаёмілася з У. Галубком, З. Бядулем, Ядзьвігіным Ш., М. Багдановічам і інш. Тут пачала падпісваць свае творы псэўданімам "Зоська Верас". Яна была добра вядомая сярод беларускай інтэлігенцыі. У 1923 г. Людвіка пераехала з маці й малым сынам Антонам (ягона бацька Фабіян Шантыр, вядомы беларускі юрыст, пісьменьнік, публіцыст, палітык, быў растраляны бальшавікамі ў 1920 г.) у Вільню. У Вільні пачала працаваць адміністратаршай розных беларускіх газэтаў, апекавалася палітычнымі вязьнямі. І. Дварчанін зьмясьціў некалькі ейных твораў у сваёй знакамітай "Хрэстаматыі".

Мая маці была чалавекам энэргічным, добрым арганізатарам, хаця дзеля дрэннага слыху па-за працай мала сустракалася зь людзьмі. Невысокага росту, хударлявая, цёмныя валасы насіла гладка пачэсаныя, адзявалася з густам, але вельмі сьціпла, была ветлівая, спагадлівая.

Антон Войцік паходзіў зь сялянскай сям'і. Толькі ягоны старэйшы брат Стэфусь вучыўся на фэльчара, але памёр маладым ад сухотаў. Іншых сыноў, а было іх яшчэ тры, бацька ў навуку не пусьціў. І тады Антось пайшоў "у людзі". Працаваў на розных работах у Расеі, ва Украіне. Хлопец быў здольны, бо хутка авалодаў і расейскай, і ўкраінскай мовамі, а пасьля й польскай. Шмат чытаў, цікавіўся астраноміяй, архітэктурай. Меў здольнасьці да пяра, нехта зь беларускіх паслоў запрасіў яго ў Вільню, дзе ён уладкаваўся рэдактарам газэты "Сялянская праўда". У 1927 г. быў арыштаваны.

Антон Войцік быў сярэдняга росту, меў правільныя рысы твару, прыгожыя сьветлыя валасы й шэрыя вочы.

Т іут, у Вільні, мае будучыя бацькі й пазнаёміліся. Людвіцы было 34, Антону - 28. Што іх зьвязала? З аднаго боку, думаецца, узаемная сымпатыя, ці нават глыбейшае пачуцьцё, аб чым сьведчаць лісты Антона, з другога боку, гэта адданасьць беларускай справе. У 1926 г. Антон і Людвіка пабраліся шлюбам.

Я нарадзілася 1 ліпеня 1927 г. У сям'і расказвалі, што маці напісала са шпіталя: "Радзілася дзяўчынка, але вельмі брыдкая". На што бацька адказаў: "Ну й будзе Галінка-брыдулька". Калі мяне прывезьлі дадому, дык бабуля Міля (Эмілія Сівіцкая) паглядзела й сказала: "Цо ты выгадуіш, она ест сьлічна!" Сям'я (маці, бацька, бабуля, брат Тонік (Антон Шантыр) і я) жылі ва ўласным доме на вул. Вясёлай у Чыгуначнай калёніі (цяпер вуліца Дзяўгсмо ў Павільнісе). Дом быў вялікі, драўляны, да яго прылягалі гаспадарчыя будынкі, стайня, хлеў, сьвіран і лазьня. У жылы дом уваходзілі ад вуліцы цераз вэранду. Пасярэдзіне дому быў перадпакой, цёмны пакойчык і кухня, дзе была пліта й "руская" печка. Зь перадпакою вялі дзьверы ў пакоі, з аднаго боку й другога па два пакоі. З кухні вялі дзьверы ў сенцы, дзе меўся выхад на панадворак і сходы на падстрэшша. Тут бацька зрабіў невялікі пакойчык, у якім была ягоная бібліятэка, стол і тапчан, на якім ён летам спаў. Ніякіх выгодаў дома не было, дом саграваўся печкамі, ваду бралі ў студні на панадворку. Дзяцей купалі ў вялікай бляшанай ваньне, ваду чэрпалі ў катле на пліце. Дарослыя мыліся ў лазьні. Кругом дому быў агарод і сад. Ад вуліцы й з аднаго боку ад суседзяў расьлі вішні, дрэвы былі вялікія, каб зьбіраць ягады, ставілі драбіну, або Тонік, а пасьля я ўлазілі на дрэва. У садзе былі яблыні розных гатункаў, сьлівы, чарэшні, маліны, ажыны, агрэст, труская і ў агародзе ўсякая гародніна, а каля дому шмат кветак. Уся дзялянка была агароджаная плотам. На панадворку стаяла буда для сабакі - гэта была нямецкая аўчарка. У доме заўсёды быў кот, а то й два.

Мяне доўга не хрысьцілі, выбіралі хросных бацькоў, нарэшце выбралі А. Зенюка й жонку пасла Фабіяна Ярэміча. Як мяне хрысьцілі, дык мне было ўжо два гады, я добра гаварыла (па-беларуску й па-польску). Хрысьцілі мяне ў Бэрнардынскім касьцёле, расказвалі, што я бегала па касьцёле, а як ксёндз наліў мне на галаву вады, голасна сказала: "Хачу да таты!". Пасьля сабраліся госьці, каб адзначыць мае хрэсьбіны. Дарослыя сядзелі пры стале, а я на канапе. Нехта падняў тост за нававароджаную, і я тады сказала "Дзякуй!" Госьці вельмі сьмяяліся.

Жылося нам тады нядрэнна, бо дома была служанка й нянька, якая займалася мной. Нянька была дзяўчына зь недалёкай вёскі Гуры, звалі яе Франя, ёй рабілі нейкую апэрацыю і ў горле ў яе была мэталёвая трубка, таму гаварыла яна са сьвістам.

Мой брат Тонік паступіў у 1928 г. у ВБГ, ён вучыўся ў адной клясе зь Юркам Луцкевічам і Валяй Ярэміч, дачкой пасла. Юрка неяк прыяжджаў да Тоніка ў госьці, і Тонік паказаў мяне (я гуляла пад сталом) і сказаў: "Гэта мая сястра!" Пасьля вайны Юрка Луцкевіч нраз успамінаў гэтую сцэну, ён быў тады адзіны з маіх знаёмых, хто ведаў мяне малую.

Бацькі мае жылі згодна, ніколі не сварыліся, бацька вельмі паважаў сваю цешчу Эмілію Сівіцкую, і яна любіла яго. Гаварылі дома на дзьвюх мовах: з бацькамі па-беларуску, з бабуляй па-польску. Рана пачалі чытаць па-расейску й па-ўкраінску. У абмен на "Заранку", часопіс для дзяцей, які выдавала маці, з Заходняй Украіны прысылалі ўкраінскія часопісы й кніжкі для дзяцей. Маці з бабуляй часам гаварылі па-францускy, калі не хацелі, каб мы з братам разумелі. І нават дзіва колькі асталося ў маёй памяці з тых дзіцячых гадоў францускіх словаў!

Вельмі важную ролю ў сям'і грала бабуля Міля, і ня толькі таму, што ў цяжкія часы ейная пэнсія як удавы штабс-капітана царскай арміі (як ня дзіўна, але ў Польшчы плацілі такія пэнсіі), была адзінай крыніцай утрыманьня. Бабуля фактычна была галавой сям'і. Яна выхоўвала дзяцей, Тоніка й мяне, рабіла з Тонікам лекцыі, асабліва зь нямецкай мовы. Пасьля, калі ўжо не было служанкі, гатавала ежу, прыбірала ў доме, толькі бялізну прыходзіла мыць жанчына з Гураў. Да бабулі Мілі можна было зьвярнуцца са сваімі бедамі, яна і пацешыць, і прытуліць, абмывала разьбітае калена, выцягвала стрэмку, зашывала падраную сукенку. Трэба яшчэ сказаць, што нашая бабуля добра шыла, канчала кравецкія курсы й на сваёй старой ручной машынцы "Зінгер" шыла адзежу для ўсёй сям'і, апрача, ясна, мужчынскіх касьцюмаў. Яна мела добры густ і магла пашыць з просьценькага матар'ялу прыгожую блюзку ці сукенку. Неяк мы былі з маці пад Галямі, і гандляркажыдоўка, расхвальваючы свой тавар, сказала: "А вось гэты матар'ял рыхтык для паненкі". А была гэта тканіна ў дробную блакітнабелую кратачку. Зь яе бабуля пашыла мне вельмі прыгожую сукенку, што зашпільвалася на дробныя блакітныя гузічкі. Бабуля Міля ніколі ня гневалася, на ўсё рэагавала спакойна: на разьбіты кубак, ці падзёртую сукенку. Яна толькі ўмела так неяк паглядзець, што мы пачуваліся вінаватымі, - і гэта было горш за ўсякае пакараньне.

Нашая сям'я была каталіцкая, але ніхто, нават бабуля Міля, ня быў практыкуючым католікам, не хадзіў рэгулярна ў касьцёл, на споведзь. Ясна, што калі я вучылася ў школе, дык хадзіла на лекцыі рэлігіі, што было абавязкам, і да касьцёлу. Затое ў сям'і прытрымоўваліся традыцыі: сьвяткавалі Каляды, Вялікдзень.

Падрыхтоўка да Калядаў пачыналася яшчэ недзе ў сярэдзіне кастрычніка. Тады не куплялі цацак на ёлку, хаця былі бліскучыя кулі (шары) ды іншыя цацкі. Лічылася гонарам рабіць цацкі самім. У кнігарні Станіслава Станкевіча на вул. Вастрабрамскай куплялі ўсё патрэбнае: каляровую глянсавую паперу, тонкую й карбаваную, залатыя й сярэбраныя зорачкі, белыя, кручаныя "анёльскія валасы", клей, залатую й сярэбраную фарбу. Вечарамі, калі былі зробленыя лекцыі, а вячэра зьедзеная, вялікі стол быў у нашай дыспазыцыі. З глянсавай паперы мы рабілі ланцугі, другі від ланцугоў быў з саломкі й складзенай з дробным рысункам бібулкі. Зь вялікіх макавак рабілі кубкі, збанкі з адным ці двума вушкамі, малявалі іх залатой ці сярэбранай фарбай. З "выдмушак" (пустая скарлупка ад яйка) таксама рабілі збаночкі. Тонік добра рысаваў і з выдмушак рабілі галоўкі лялек: маркізу ў пэруцы зь белых анёльскіх валасоў, арлекіна, мурына. ёлку ставілі ў дзень Куцьці, 24 сьнежня, ёлка была высокая, да столі. Мы самі ўпрыгожвалі ёлку, апрача цацак вешалі невялікія чырвоныя яблычкі, літоўскі пенін, пазалочаныя валоскія гарэхі, цукеркі.

Калі на небе паказвалася першая зорка, сядалі пры стале, пакрыты спачатку сенам, а потым белым абрусам. Найперш дзяліліся аплаткам, жадаючы адно аднаму здароўя, шчасьця. На Куцьцю ўсе стравы былі посныя. Спачатку быў боршч вараны з грыбоў, а да яго "вушкі" (маленькія піражкі, надзеваныя грыбамі й смажаныя ў аліве - яны гатаваліся толькі адзін раз на год, на Куцьцю), пасьля елі селядца й розныя рыбы. Рыбу куплялі рачную й вазёрную, бо марская, апрача селядцоў, была ў Польшчы задарагая. Асабліва смачная была смажаная да хрумсту дробная рыбка сялява ці стынка. Да рыбы былі розныя салаты з гародніны: бульбы, буракоў, фасолі, капусты, кіслай капусты. А завяршалася Куцьця салодкімі стравамі: кісялём з журавінаў, да яго макавае малако, кампотам з сушанай садавіны й, нарэшце, цёртым макам зь печывам. Мак цёрлі ў макотры, глінянай пасудзіне з шурпатымі сьценкамі. Макотру можна было купіць на "Казюка". Церці мак - справа ня простая, вымагалася сіла й рабілі гэта мужчыны. Страваў было 12 і калі ўсяго зьесьці хоць пакрысе, дык можна сказаць словамі Коласа:

*І так бывала наясіся,*
*Хоць ты на пупіку круціся!*

Пасьля Куцьці запальвалі сьвечкі на ёлцы, бенгальскія агні. Аглядалі падарункі, каторыя таксама былі зробленыя сваімі рукамі: цацкі з дрэва, як, напрыклад, мэблі для лялек, сьмешныя драўляныя фігуркі, вышытыя сурвэткі, зьвязаныя кручком шалікі або шапачкі. Кожны, хто рабіў падарунак, укладаў у яго ня толькі сваё ўменьне, але й сэрца, ахвоту зрабіць прыемнасьць. А гэта было больш, чым купляныя падарункі. Праўда, бацькі куплялі нам час ад часу кніжкі, алавікі да рысаваньня, паперу.

На першы дзень сьвята быў сьвяточны абед - галоўнае якаясь мясная страва й салодкае. Прыходзілі часам суседзі, найчасьцей суседзкія дзеці, зь якімі я сябравала, і я хадзіла да іх паглядзець, чыя ёлка прыгажэйшая.

*Працяг у наступным нумары*

**Галіна Войцік**

# Без нацыянальнай ідэі ў дзяржавы няма будучыні, без нацыянальнай мовы не існуе нацыянальнай ідэі

## Сямён Домаш



Рэспубліка Беларусь - клясычная нацыянальная дзяржава, якая ўзьнікла пасьля распаду савецкай імпэрыі. Дзяржава з усімі “радзімымі плямамі” калёніі, такімі, як дэнацыяналізаванае кіраўніцтва, у каторым асноўную ролю граюць парэшткі каляніяльнай адміністрацыі, рыжкаўска-разанскі дыялект мовы чынавецтва, пастаянная лісьлівасьць да “гаспадара” й г. д. Ад гэтых “плямаў” ня так лёгка пазбавіцца. І тым ня менш, Беларусь - унітарная нацыянальная дзяржава, дзе асноўная частка насельніцтва ёсьць беларусы, а астатнія ў значнай большасьці толькі пішуцца да іншых нацыянальнасьцяў, а самі - тыя самыя беларусы.

Распады імпэрыяў і стварэньне нацыянальных дзяржаваў, як вядома з гістарычнага досьведу, ідуць паводле розных сцэнараў: ад унутраных крызысаў да зьнешняга ўзьдзеяньня. У нашым выпадку развал СССР адбыўся ў выніку крызысу камуністычнай ідэалёгіі, які ў свой чарод быў выкліканы поўнай паразай у халоднай вайне ў цэлым і, як гэта ня дзіўна, у інфармацыйным спаборніцтве. СССР трымаўся датуль, дакуль рэжыму ўдавалася трымаць “жалезную заслону” перад інфармацыяй з Захаду.

Усе каштоўнасьці, якія спавядала камуністычная партыя, пасьля распаду СССР аказаліся неістотнымі, негрунтоўнымі. Маладыя дзяржавы СНД і Прыбалтыкі імкліва пачалі шукаць тую кропку, да якой можна было-б прывязаць большасьць разнародных сілаў гэтых краінаў. Практычна ні адна з гэтых дзяржаваў не змагла знайсьці нічога іншага акрамя старых і добра вядомых ісьцінаў: рэлігіі й нацыянальнай ідэі. А ўлічваючы тое, што рэлігія ў шмат якіх выпадках набывае нацыянальныя формы, фактычна зьяўляецца часткай нацыянальнай ідэі, - дык большасьць маладых дзяржаваў за “кропку апірышча” ўзяла менавіта нацыянальную ідэю.

Не абмінулі гэтыя працэсы й Беларусь. З 1988 г., а асабліва ў 1991-94 гг. пачалі фармавацца галоўныя пастуляты беларускай нацыянальнай ідэі на груньце гістарычнае спадчыны, гістарычных традыцыяў. Распачалася карпатлівая праца ў справе вяртаньня народу гістарычнай памяці, нацыянальных сымбаляў і нацыянальнай годнасьці. І асноўная барацьба разгарнулася не вакол бел-чырвона-белага сьцягу й “Пагоні”, а вакол мовы, як асноўнага пакашчыка адметнасьці, самабытнасьці й нацыянальнай існасьці кожнага народу.

Складанасьць барацьбы за мову заключаецца ня ў тым, дасканальная яна ці не, прыгожая ці не, мілагучная ці не. Складанасьць палягае ў тым, што мова патрабавала й патрабуе вялікай працы. Увядзеньне ці адмена сьцягу, гербу, гімну тычалася абсалютна невялікай колькасьці людзей, і тое толькі ў парадку выкананьня службовых абавязкаў. Сёньня павесілі, заўтра зьнялі - да гэтага дэнацыяналізаваны абывацель ставіўся збольшага абыякава. Іншая справа мова. Супраць мовы паўстаў дзяржаўны аппарат, кляса чыноўнікаў, вайскоўцы, большая частка інтэлігенцыі, асабліва тэхнічнай, вялікі пласт простых грамадзянаў. Мова закранула ўсіх і прынесла дадатковую нагрузку, дадатковую працу за тыя самыя грошы. І не антаганізм да мовы рухаў імі, а звычайная лянота, звычайнае гультайства. Навошта бухгальтару “каштарыс” і “рахунак”, калі больш звыкла “смета” и «счёт»? Навошта інжынеру “шпуля”, “помпа”, “рухавік”, калі больш звыкла “катушка”, “насос”, “двигатель»?

Але ці можна такую сытуацыю тлумачыць толькі лянотай і гультайствам? Напэўна, не зусім. Гэтая тэрміналёгія зь невялікімі перапынкамі ўкаранялася 200 гадоў, амаль сем пакаленьняў, і дасягнуць таго, каб яна за год ці два зьнікла, саступіла месца новай беларускай тэрміналёгіі, ня так проста. І гэтаму найперш замінаюць адсутнасьць у нашай краіне нацыянальнай сыстэмы дзяржаўнага будаўніцтва й нацыянальнай сыстэмы адукацыі.

Тут мне могуць запярэчыць, што ў нас пануе ня руская мова, а расейская сыстэма дзяржаўнай улады. Аднак у Беларусі яна карэнным чынам адрозьніваецца ад дзяржаўнай улады ў Расеі. Але ці адрозьніваюцца яна ад сыстэмы ўлады былой савецкай імпэрыі? Так, адрозьніваюцца, але толькі шыльдамі. Замест шыльды «Цэнтральны камітэт КПБ» вісіць «Адміністрацыя Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». А ў астатнім усё на месцы. Усе кіраўнікі рэгіёнаў прызначаюцца ў Менску. Урад - хлопчыкі для біцьця, якія адказваюць нават за дрэннае надвор’е. Нацыянальны Сход - дэкарацыя, , якая сама зь сябе нішто, пакуль ня выйдзе галоўны «артыст». Адміністрацыя-ж ні за што не адказвае, дакладней, адказвае толькі за моц свайго палітычнага й эканамічнага становішча, для захаваньня патрэбнага ўзроўню якіх мае й свае спэцслужбы, і свой бюджэт, і сваё заканадаўства, якое дзейнічае праз сумнавядомыя «дэкрэты прэзыдэнта».

Такім чынам у Беларусі захаваная таталітарная сыстэма ўлады. Складнікам гэтай сыстэмы зьяўляецца стары дзяржаўны аппарат, які ў большасьці сваёй не беларускі нават этнічна. Таму чакаць ад гэтага апарату нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва не выпадае. Разам з тым, і ў гэтым апараце разумеюць марнасьць спадзяваньняў на вечнасьць рэжыму, асабліва рэжыму, не падмацаванага ідэалёгіяй. Хрысьціянская ідэалёгія йснуе 2000 гадоў, камуністычная пратрымалася каля 1,5 ст. , фашысцкая - гадоў 25. Гэта ўсё міжнародныя ідэалёгіі. Большасьць-жа народаў мае сваю нацыянальную ідэю ці ідэалёгію: «Масква - трэці Рым», «Deutschland uber alles”, “Polska od morza do morza”, “Didzioji Lietuva” і г. д. Беларускі таталітарны рэжым таксама шукае сваю нацыянальную ідэю. Але якую нацыянальную ідэю могуць знайсьці Латыпаў, Замяталін, Посахаў ды іншыя былыя савецкія палкоўнікі, што зьяўляюцца ідэалягічным апірышчам Лукашэнкі? Ідэя сяброўства зь вялікім усходнім суседам, “старэйшым братам”, напачатку давала плён. Але з году ў год прывабнасьць гэтай ідэі нават сярод прыхільнікаў Лукашэнкі няўхільна падае. Катаклізмы ў Расеі, бесперапынныя войны, то ў Прыднястроўі, то ў Таджыкістане, то ў Дагестане, то зноў у Чачні. Падрывы дамоў, бясконцыя забойствы бізнэсмэнаў, банкіраў, развал арміі й флёту. Перадзел уласнасьці, барацьба за ўладу “па-расейску” пужаюць беларуса. Ен, нават не чытаючы апазыцыйных газэтаў, разумее - далучымся і ў нас будзе тое самае.

Тады рэжым кінуўся да ня менш старой ідэі панславянізму, якая заўсёды служыла інтарэсам усё той самай Расеі. Ніхто, акрамя Сэрбіі, пра гэта й чуць не хацеў, а такія славянскія краіны, як Польшча й Чэхія, узялі ды ўступілі ў НАТА. Тудыж імкнуцца Славенія й Славакія, ласа паглядае Ўкраіна. Панславянізм не атрымоўваецца. Тады палкоўнікі з атачэньня Лукашэнкі вярнуліся да звыклай армейскай мадэлі. Гэтая мадэль выглядае так: на першым этапе вызначаецца праціўнік (вораг), дасьледуюцца ягоныя сілы й сродкі, кірункі магчымых udaraў, - усё гэтае наносіцца на мапы. А затым пачынае будавацца абарона альбо групавацца сілы для наступу - усё залежыць ад задачы. Калі ў свойчас Гарбачоў абвесьціў, што ў нас ворагаў няма, уся савецкая вайсковая навука паляцела ў тартарары. У адрозьненьні ад савецкай, амэрыканская вайсковая навука за адпраўны пункт бярэ ня ворага, а нацыянальныя інтарэсы, і, ужо зыходзячы зь іх, будуе сваю ваенную дактрыну. Былыя савецкія палкоўнікі з атачэньня Лукашэнкі ў “вэст-поінтах” не вучыліся, таму дзейнічаюць па-савецку й пачынаюць з вызначэньня ворага. Рэшткі камуністычнага дурману не даюць ім адыйсьціся далёка ад “лініі партыі”, і “ворагі” ўсё тыя самыя: ЗША і НАТА. А далей паводле формулі вялікага аль-Бедры: “Скажы, хто твой вораг, і я скажу, хто твой сябар”. Сябры ў нас зараз Ірак, Куба, Паўночная Карэя, Кітай, хутка будзе Лівія. Але з такімі сябрамі ня толькі пра нацыянальную ідэю, а нават і пра нейкую мэркантыльную ідэю гаварыць не выпадае.

Такім чынам, усе спробы рэжыму зьяднаць беларускае грамадзтва вакол хоць якой ідэі церпяць і будуць цярпець крах. Таму што антынацыянальны рэжым можа выпрацаваць толькі антынацыянальную ідэю, якімі па-сутнасьці й зьяўляюцца і лукашэнкаўскі погляд на саюз з Расеяй, і панславянізм, і цяўканьне на НАТА.

Што тычыцца нацыянальна-сьведамай і дэмакратычнай часткі беларускага грамадзтва, дык тут асноўныя азначэньні нацыянальнай ідэі выпрацаваныя ўжо даўно. Беларусь - гэта нацыянальна арыентаваная, незалежная, дэмакратычная, эўрапэйская дзяржава. Беларусы - самабытны й пэрспэктыўны этнас.

Эўрапэйскасьць Беларусі вызначаецца ейным месцазнаходжаньнем, гісторыяй, архітэктурай, колішнім самабытным дзяржаўным укладам, канстытуцыйнымі традыцыямі, палітычнымі й эканамічнымі інтарэсамі, а таксама пэрспэктывамі ўсебаковай узаемнай беларуска-эўрапэйскай і эўрапэйска-беларускай інтэграцыі.

Дэмакратычнасьць Беларусі - неабходная ўмова на шляху да Эўропы. Дэмакратыя з усімі ейнымі атрыбутамі - свабодай слова й веравызнаньня, незалежнасьцю СМІ, правамі чалавека, падзелам улады й г. д. - гэта тая самая каляіна, зь якой ніякі самадур-фурман ня зможа вывернуць беларускі воз, каторы будзе рухацца ў зразумелым кірунку й будзе прытрымліватца ўсіх эўрапэйскіх дарожных правілаў і знакаў.

Незалежнасьць Беларусі - гэта перадумова выбару стратэгічных кірункаў і прыярытэтаў на карысьць менавіта беларускаму народу, а ня нейкаму там эфэмернаму “славянскаму адзінству”. Незалежнасьць перадусім - рэальная магчымасьць рэалізаваць інтэлектуальны, эканамічны, прыродны ды іншы патэнцыял беларускае дзяржавы зноў-жа на карысьць беларускаму народу.

І, нарэшце, нацыянальная арыентаванасьць Беларусі - гэта ўмова для паўнавартаснага йснаваньня ў сусьветнай сям'і краінаў. Нацыянальная арыентаванасьць - гэта падкрэсьленьне нацыянальнай адметнасьці краіны, каб Беларусь ня блыталі зь Белай Расеяй і на алімпіядах перад нашай камандай несьлі шыльду з надпісам “Belarus”, а не “Weitrussia”. Нацыянальная накіраванасьць - гэта своеасаблівы каэфіцыент сур’ёзнасьці нашай краіны. Сур’ёзная краіна мае сваю мову, свае межы, свае грошы. Сваё войска, свае - герб, сьцяг, гімн. Сваё радыё, тэлебачаньне, кіно, цырк, спорт. Сваю гісторыю, архітэктуру, сваю культуру, сваю адукацыю, сваю ахову здароўя, свае йімёны і ўсё астатняе таксама сваё. Кожная нацыя ўносіць у здабыткі цывілізацыі свой унёсак. І ён тады толькі прыкметны й значны, калі мае нацыянальныя рысы. Чэскае й баварскае піва, бразільскі футбол, цэйлонская гарбата, рускі балет, канадзкі хакей, японская электроніка й беларуская бульба, якая, праўда, і вядомая больш у Беларусі. Яшчэ нам дазваляецца мець беларускія лапці. А мы павінныя мець вядомыя ва ўсім сьвеце беларускія аўтамабілі, беларускі лён, тэлевізары й шмат што іншае. Адметнасьцю Беларусі павінныя быць высокая беларуская якасьць і прыгожая беларуская мова.

Стагодзьдзямі абкрадалася беларуская гістарычная памяць. З нас рабілі то недаробленых палякаў, то перарobленых рускіх. Сёньняшнія беларускія ўлады панічна баяцца гістарычнай праўды. Яны разумеюць, што калі беларусы “уцямяць” сваю тысячагадовую гісторыю, дык каляніяльная адміністрацыя доўга не пратрымаецца. Улады ўсімі спосабамі імкнуцца даказаць нікчэмнасьць беларусаў ды іхную беспэрспэктыўнасьць без Расеі. Асобныя, найбольш адыёзныя, палітычныя дзеячы ў самой Расеі садзейнічаюць гэтаму. Той самы Жырыноўскі адкрыта па тэлебачаньні называе беларускага прэзыдэнта “конюхам”.

Пасьля ўсяго сказанага робіцца зразумелым, чаму галоўная лінія падзелу праходзіць па мове, а рэжым асноўную ўвагу аддаў і аддае разбурэньню нацыянальнай сыстэмы адукацыі. Не сакрэт, што абсалютная большасьць людзей вучыцца ў веку ад 6 да 30 гадоў. Фактычна, адначасова вучыцца цэлае пакаленьне. І калі-б гэтае пакаленьне засвоіла ўвесь аб’ём нацыянальных каштоўнасьцяў, дык бадзёрая песенька былых савецкіх палкоўнікаў плаўна перайшла-б у пахавальны марш.

Таму атака на беларускую мову пайшла разам з атакай на беларускую школу. Узровень беларускамоўнай адукацыі хацелі адкінуць ніжэй плянкі 80-ых гг. Нацыянальна сьведамая інтэлігенцыя адказала традыцыйна: у дадатак да створанага яшчэ пры СССР Таварыства беларускай мовы (ТБМ) было створанае Таварыства беларускай школы (ТБШ). Гэтыя дзьве грамадзкія арганізацыі дэ-факта выйшлі на пярэдні край у разьвіцьці й правядзеньні ў жыцьцё нацыянальнай ідэі, фактычна пераняўшы гэтую галіну дзейнасьці ў палітычных партыяў ды іншых грамадзкіх аб’яднаньняў. Пасьля рэфармаваньня БНФ “Адраджэньне” ТБМ засталося самай масавай нацыянальнай грамадзкай арганізацыяй і налічвае зараз каля 8 тыс. сяброў. Улічваючы, што сябрамі ТБМ зьяўляюцца прадстаўнікі практычна ўсіх нацыянальных дэмакратычных партыяў, Таварыства, фактычна, сталася кансалідаваным рухам ня толькі за беларускую мову, але й цалкам за незалежную Беларусь.

Характэрнай рысай дзейнасьці ТБМ апошнімі гадамі стаўся пераход ад дзейнасьці, каторая складалася з шэрагу кампаніяў, да бесперапыннай працы адпаведна стратэгічнай скіраванасьці, у выніку якой беларускай мове будзе нададзены статус сапраўднай дзяржаўнай мовы. Адным зь інструмэнтаў дасягненьня гэтае мэты зьяўляецца стварэньне бесперапыннага беларускамоўнага адукацыйнага канвэеру - ад дзіцячага садка да ўнівэрсытэту. І заключны этап - Беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт (БНУ) - зьяўляецца найважнейшым зьвяном у гэтым канвэеры. Таму ў 2000 г. ТБМ рэзка актывізавала збор подпісаў за адкрыцьцё БНУ . За паўгады было сабрана больш за 30 тыс. подпісаў. Стотысячная Ліда дала 9 тыс. (!) подпісаў і нават апярэдзіла Менск.

Націск ТБМ прымусіў улады перайсьці да абароны, але да прарыву ў гэтым пытаньні яшчэ далёка. Таму націск ні ў якім разе нельга паслабляць. Сёньня вынік супрацьстаяньня на лініі БНУ ёсьць ня проста адкрыцьцё або неадкрыцьцё цалкам нацыянальнай беларускамоўнай навучальнай установы, гэта адказ на пытаньне: ёсьць будучыня ў беларускай адукацыі ці няма? Можна запярэчыць, што калісьці вучыліся на лаціне, заканчвалі ўнівэрсытэты ў Нямеччыне, Кракаве, Пецярбурзе, а выходзілі патрыётамі Беларусі. Так, выходзілі. Выходзяць і цяпер. Але колькі іх? А гаворка йдзе пра мільёны сьвядомых беларусаў. З той прычыны, не зьмяншаючы значэньня іншых кірункаў дзейнасьці, трэба пагадзіцца з тым, што нацыянальная адукацыя - глябальны чыньнік, разьвіцьцё якога вядзе да назапашваньня крытычнай масы нацыянальнай сьвядомасьці, якая праз пэўны час выбухне цалкавітым адраджэньнем нацыі. І выбух гэты зьмяце рэшткі каляніялізму.

Таму, працягваючы назву гэтага артыкулу, можна сьцьвярджаць: **моцнай дзяржавы няма без нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ідэі няма без нацыянальнай мовы, а нацыянальнай мовы няма без нацыянальнай адукацыі.** Калі мы забясьпечым нацыянальна адукаванае пакаленьне беларусаў, мы забясьпечым усё астатняе. Гэтая мэта павінная стацца адной з самых галоўных кірункаў дзейнасьці палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, якія імкнуцца зрабіць Беларусь незалежнай, цывілізаванай дзяржавай. Рэалізацыю-ж гэтае мэты павінна забясьпечыць будучая дэмакратычная ўлада Беларусі, каторая прыйдзе на зьмену цяперашняму рэжыму.



**Абразок Маткі Боскай з Медзюгор’я й калядныя зычэньні даслаў нам наш чытач *Мечыслаў Хвайніцкі*. Вялікі дзякуй!**

Сямён Шарэцкі

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

## або што адбывалася на Случчыне ў канцы 1920 г.

Гэтымі лістападаўскімі й сьнежаньскімі днямі спаўняецца 80 гадоў з дня Слуцкага збройнага чыну. Гэта быў адзін зь першых арганізаваных выступаў супраць гвалтоўнай палітыкі бальшавікоў, устанаўленьня імі свайго панаваньня й аднаўленьня расейскага шавінізму пад лёзунгамі стварэньня сусьветнага Саюзу Савецкіх Рэспублікаў. Таму ва ўсіх савецкіх энцыкляпэдыях ды падручніках з гісторыі Беларусі аб падзеях, што адбываліся на Случчыне ў восеньскія й зімовыя дні 1920 г., або наогул замоўчваецца, або іх характарызуюць як "антысавецкі эсэра-нацыяналістычны мяцеж", які, маўляў, паднялі эсэры, беларускія нацыяналісты, рускія белагвардэйцы й кулакі. Але давайце адкінем бальшавіцкую заангажаванасьць на клясавым падыходзе й паспрабуем адказаць на пытаньне, што, сапраўды, адбывалася напрыканцы 1920-га на Случчыне?

У гэтым зьвязку першае, што трэба адзначыць, дык гэта тое, што Случчына адносіцца да тых рэгіёнаў Беларусі, якія заўсёды вылучаліся цягай іхных жыхароў да свабоды, навукі, якія мелі яскравы беларускі характар. Дастаткова сказаць, што ў 1661, 1684, 1699, 1700, 1705, 1744 гг. у Слуцку адбываліся хваляваньні гараджанаў. Ужо ў 1581 г. тут была заснаваная друкарня, а ў 1617 г. - кальвініцкая гімназія, дзе рыхтаваліся духоўныя асобы й настаўнікі. У 1628 г. тут быў складзены "Статут Слуцкай школы", у каторым, у прыватнасьці, гаварылася: "У школе ажыцьцяўляецца рух наперад ня толькі для зьнешніх дабротаў жыцьця, але, галоўным чынам, для ўнутранага, духовага развіцьця. Да гэтага заклікае стараннасьць вучоных: яны трывала стаяць на дазорнай школьнай вежы, пастаянна, рупліва й пільна сочаць за бестурботнай і санлівай моладзьдзю, клапоцячыся пра ейную карысьць... Прыходзьце-ж усе, каму дарагая Радзіма, хто правільна ацэньвае мэтанакіраванасьць сваіх учынкаў! Нікому не закрыты шлях!" У 1715-36 і 1751-60 гг. у Слуцку дзейнічаў тэатар, пры якім у апошнія гады йснавала й балетная школа.

Усё гэта спрыяла таму, што на слуцкай зямлі нарадзіўся і ўзгадаваўся цэлы шэраг вядомых дзеячоў навукі й культуры, змагароў супраць нацыянальнага прыгнечаньня Беларусі. Так, пакуль "Российская земля", паводле словаў М. Ламаносава, чакала «собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов», беларус, былы вучань Слуцкай гімназіі, Ільля Капіевіч пераклаў і выдаў па даручэньні Пятра І і за параўнальна кароткі тэрмін (з 1688 па 1706 г.) больш дзесяці кніжок. Ён-жа склаў і надрукаваў першы ў Расеі падручнік арытмэтыкі, першыя слоўнікі, руска-лацінска-нямецкі й руска-лацінска-галандзкі, пераклаў і выдаў байкі Эзопа, вучэбныя дапаможнікі ў навігацыі.

На Случчыне нарадзіўся й скончыў Слуцкую гімназію, а пасьля вучобы ў Кёнігсбэгскім і Лейдэнскім унівэрсытэтах з 1760 г. сам працаваў ейным рэктарам паэт і пэдагог Табіяш Гратколькі. Філязофію ў тыя гады выкладаў адзін з найбольш ведамых у гэтай галіне вучоных у Беларусі й Літве Антон Скарульскі. У ХІХ ст. Случчына дала знакамітага хірурга, доктара мэдычных навукаў ёсіфа Каржанеўскага й вучонага-вэтэрынара, пэдагога Ёсіфа Гіршовіча, жывапісца-партрэтыста Адама Шэмета, паэтку й перакладчыцу Зоф'ю Трашчкоўскую, пісьменьніцу-мэмуарыстку, удзельніцу нацыянальна-вызвольнага руху Еву Філінскую. У вёсцы Замосьце Слуцкага павету нарадзіўся ў 1823 г. вядомы пісьменьнік і публіцыст Адам Плуг (сапраўднае прозьвішча Антон Пяткевіч), які таксама скончыў Слуцкую гімназію.

Пра нацыянальную сьведамасьць случчакоў гаворыць той факт, што калі ў канцы XVII - першай палове XVIII ст. ст. з боку правячых колаў Рэчы Паспалітай узмацніўся ціск на беларускую культуру, на праваслаўную й пратэстанцкую рэлігіі, дык менавіта з цэнтрам у Слуцку ў 1767 была створаная г. зв. канфэдэрацыя для абароны правоў незадаволеных праводзімай уладамі палітыкай. 1863 г. адзначаны хваляваньнямі гімназістаў. Выхадцамі са Случчыны зьяўляюцца вядомыя дзеячы рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX ст. Марыя Багушэвіч і Браніслаў Белабоцкі.

З гэтай прычыны абвешчаньне напачатку 1918 г. незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі не магло не знайсьці падтрымку на Случчыне. Тут быў створаны й пачаў працаваць Беларускі Нацыянальны Камітэт. Але дзейнасьць ягоная была прыпыненая наступам на захад Чырвонай Арміі. А калі ў 1920 г. бальшавікі адступілі й Случчына была акупаваная польскімі войскамі, БНК аднавіў сваю працу. Для арганізацыі абароны была створаная народная міліцыя лікам у некалькі сотняў чалавек. У сярэдзіне лістапада быў скліканы Зьезд Случчыны, на якім прысутнічала больш за сто прадстаўнікоў ад самога гораду пятнаццаці воласьцяў Слуцкага павету. У рэзалюцыі Зьезду ад 14 лістапада было сказана: "Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Найвышэйшую Раду Беларускае Народнае Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця Бацькаўшчыны чужацкімі й самазванчымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная, незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!"

У рабоце Зьезду браў удзел камісар ураду БНР у Слуцкім павеце, прадстаўнік Найвышэйшае Рады БНР, ураджэнец вёскі Цецяроўка Слуцкага павету Павел Жаўрыд. Гэта быў адукаваны й нацыянальна сьведамы чалавек. Вучыўся ў Варшаўскім унівэрсытэце. У часе І-ай Сусьветнай вайны быў у дзейнай арміі на Румынскім фроньце. У 1917 г. дэлегаваны вайскоўцамі-беларусамі на Ўсебеларускі зьезд. У 1919-ым арыштоўваўся Надзвычайнай Камісіяй "паводле абвінавачаньня ў дапамозе Дзянікіну". У 1920-ым некаторы час быў у Чырвонай Арміі. У 1930-ым незаконна рэпрэсаваны.

Зьезд абраў Раду Случчыны ў ліку 17 асобаў, даручыў ёй арганізацыю вайсковых фармаваньняў. Узначаліў Раду Уладзімір Пракулевіч зь вёскі Красналукі Чашніцкага раёну. У 1912 г. ён скончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт. З 1914 г. працаваў у Менскім акруговым судзе. Быў сябрам партыі беларускіх эсэраў. З 1923 па 1926 г. зьяўляўся дзяржаўным сакратаром ураду БНР. Пераехаўшы ў БССР, працаваў некаторы час у Дзяржаўнай бібліятэцы. У 1930 г. арыштаваны й сасланы ў Сыбір, у 1938-ым паўторна арыштаваны й растраляны. І Павел Жаўрыд і Ўладзімір Пракулевіч сталіся ахвярамі савецкай прапаганды. Паверыўшы савецкай уладзе, яны прыехалі разам з многімі іншымі беларускімі дзеячамі ў БССР дзеля стваральнай працы й паплаціліся сваім жыцьцём.

17 лістапада быў абраны Прэзыдыюм Рады ў ліку 7 асобаў, створаныя юрыдычная, фінансавая, зямельная й харчовая камісіі. 21 лістапада Рада Случчыны выдала дэклярацыю, у якой гаварылася: "У момант самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і давераўшага ёй абарону незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны-Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб дамаганьнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і зьяўляючыся выразіцелькай волі народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю аружжа, нягледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што наша справа - справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе!"

Як ёй і было даручана Зьездам, для абароны Случчыны ад зноў наступаўшай Чырвонай Арміі Рада пачала ствараць рэгулярнае беларускае войска, ядром якога стала народная міліцыя. Аднак час на гэта быў вельмі кароткі й камандаваньне дало загад вайскоўцам і міліцыі пакінуць Слуцак і зьбірацца ў Семежаве, куды сабралася, як сцьвярджаюць гісторыкі Язэп Найдзюк і Іван Касяк, каля 10 тыс. змагароў. (У іншых крыніцах падаецца 4 тыс.). Але, незалежна ад дакладнасьці гэтай лічбы, геаграфічная прыналежнасьць тых, хто жадаў тады ўступіць у беларускае войска, паказвае, што ідэяй незалежнай Беларусі былі ахопленыя шмат якія рэгіёны Беларусі. Сярод ахвотных змагацца з бальшавіцкай экспансіяй былі ня толькі случчакі, але й капыляне, у тым ліку й Мікалай Чыгір (бацька Міхаіла Чыгіра), жыхары мястэчка Вызны (цяпер Чырвоная Слабада) й нават жыхары Клічаўшчыны. Акрамя слуцкага палка з тых, хто сабраўся, быў створаны яшчэ адзін - Грозаўскі полк (ад назвы мястэчка Грозаў), у які ўвайшлі пераважна грозаўская моладзь. Абодва палкі аб'ядналіся ў Слуцкую дывізію, на адным са сьцягоў якой быў герб "Пагоня" й вышытыя гарадзенскімі жанчынамі словы "Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Пра сур'ёзнасьць арганізацыі войска случчакоў сьведчаць тыя факты, што за кароткі час кіраўніцтва Рады й камандаваньне дывізіяй пасьпелі арганізаваць нават палявы шпіталь і вайсковы суд. 27 лістапада першая дывізія беларускага войска ўступіла ў бой. Баі разгортваліся каля вёсак Быстрыцы, Верабейчыцы, Васільчыцы, Дашнова, Лотавічы, Мацкевічы, каля мястэчак Копыль, Цімкавічы, Вызны ды інш. Ведама, што сілы былі няроўныя, у случчакоў не ставала зброі й амуніцыі. Супраць іх была кінутая 27-ая Омская дывізія Чырвонай Арміі. Калі зрабілася зразумела, што Слуцкая дывізія ўжо ня мае сілы змагацца, яна вымушаная была 28 сьнежня адступіць за раку Лань, дзе была раззброеная ды інтэрнаваная палякамі. Праўда, нейкая частка дывізіі ня склала зброі й рассыпалася ў лесе, пасьля чаго напрацягу даўжэйшага часу нападала на прадстаўнікоў бальшавіцкай улады.

Памяць пра слуцкіх змагароў была ўшанаваная ў Беларусі толькі ў сярэдзіне 90-ых гг.: у Грозаве й Вызнах (Чырвонай Слабадзе) ўстаноўленыя крыжы. Але, на жаль, па некаторым часе крыж у Вызнах быў зьнішчаны. Кажуць, што да гэтага прыклаў руку й мяйсцовы праваслаўны сьвятар. Калі так, дык гэта яшчэ раз падцьвярджае, што Руская праваслаўная царква ў Беларусі знаходзіцца на службе "чужацкага й самазванчага" рэжыму, які сёньня пануе ў нашай краіне й які падтрымліваецца з таго самага Ўсходу, адкуль у зімовыя дні 1920 г. на Беларусь пад чырвонымі сьцягамі наступалі крывавыя сілы бальшавікоў. Таму сёньня мы ўзгадваем пра Слуцкі Збройны Чын ня толькі, як пра адну з гераічных старонак нашае гісторыі, але й для таго, каб, зразумеўшы ўсю адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны, аб'яднацца й стаць на абарону ейнай незалежнасьці. Бо, як гаворыцца ў прынятым напрыканцы ліпеня 2000 г. на Ўсебеларускім зьезьдзе "Акце незалежнасьці Беларусі", "права мець сваю незалежную дзяржаву зь ейнымі адвечнымі сымбалямі, бел-чырвона-белым сьцягам і гербам "Пагоня", Беларусам дадзена Богам і гісторыяй"!

# АЙЧЫНА Ў НЕБЯСЬПЕЦЫ!

## Заява Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

Як стала вядома, 27 лістапада 2000 г. са сваіх пасадаў былі зьнятыя Віктар Шэйман, Уладзімір Мацкевіч і Алег Бажэлка, хоць апошні й быў прызначаны на сваю пасаду незаконна. Нейкі час перад гэтым пакінулі свае пасады Сяргей Лінг і Рыгор Кісель, а яшчэ раней - Іван Антановіч. Усе яны аддана служылі дыктатарскаму рэжыму, створанаму ў Беларусі з дапамогай шавіністычных колаў, але паводле нацыянальнасьці яны былі беларусамі. Іхняе месца сёньня занялі пасланцы Масквы, многія зь якіх зьяўляюцца афіцэрамі расейскіх спэцслужбаў.

Апошні кадравы ператрус у шэрагах дыктатарскага рэжыму не павінен ужо ні ў каго выклікаць сумневу, што, гаворачы словамі кіраўнікоў Расейскай Фэдэрацыі, у Беларусі заканчваецца "зачыстка" існуючага рэжыму ад беларусаў. Тым больш, што гэта падцьвярджаецца й абраньнем кіраўніка г. зв. "Палаты", таксама паводле нацыянальнасьці рускага, які, дарэчы, ужо пасьпеў зьняважыць беларускую мову.

Згодна свайго нацыянальнага складу пануючы ў нашай краіне дыктатарскі рэжым зараз зьяўляецца амаль цалкам расейскім, а ў адносінах да Беларусі - акупацыйным. Наступным крокам, які можа адбыцца ў Беларусі, мабыць, стане адхіленьне ад улады самога дыктатара й замена яго менш амбітнай і больш прыймальнай для Расеі асобай, або здача дыктатарам сувэрэнітэту Беларусі на прапануемых расейскімі шавіністамі ўмовах. Да сказанага трэба дадаць, што ў самога дыктатара больш года таму закончыліся ягоныя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы, і супраць узначальваемага ім рэжыму узбуджаная й вядзецца крымінальная справа аб захопе ўлады неканстытуцыйным шляхам. Таму ўсе падпісаныя ім дакуманты ня маюць ніякае юрыдычнае сілы.

Але апошні наступ расейскага шавінізму сьведчыць пра тое, што пры дасягненьні сваіх злачынных мэтаў, ён ня спыніцца ні перад чым і ніякіх справядлівых дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі ня будзе. Таму адзіным крокам, які сёньня можна супрацьпаставіць наступствам прарасейскага акупацыйнага рэжыму зьяўляецца, як я ўжо прапаноўваў у сваёй папярэдняй заяве, утварэньне Часовага ўраду нацыянальнага даверу, каторы зможа аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы ў краіне й разам зь Вярхоўным Саветам РБ арганізуе сапраўдныя дэмакратычныя выбары як парляманту, гэтак і Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Прычым дзеля гэтага ў нас застаецца вельмі мала часу. Як Старшыня Вярхоўнага Савету яшчэ раз заяўляю, што гатовы, згодна з Канстытуцыяй РБ, узяць на сябе ўсю адказнасьць і прыступіць да перамоваў на гэты конт з усімі сіламі, зацікаўленымі ў захаваньні незалежнасьці Беларусі й вяртаньні яе на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

Паважаныя суайчыньнікі, незалежна ад сёньняшняга вашага месцазнаходжаньня, зьвяртаюся да вас з заклікам: АЙЧЫНА Ў НЕБЯСЬПЕЦЫ! ЗРОБІМ УСЁ, КАБ АБАРАНІЦЬ І ЗАХАВАЦЬ НАШ БАЦЬКОЎСКІ ДОМ!

Разам з тым, спадзяюся на тое, што апошнія падзеі ў Беларусі, каторыя зьяўляюцца пагрозай расейскага шавінізму ня толькі для нашай краіны, але й для рэгіёну ў цэлым, будуць зразуметыя ўсімі дэмакратычнымі сіламі сьвету з адпаведнымі высновамі й ацэнкамі.

*27 лістапада 2000 г.*

**Сямён Шарэцкі**

# Погляд на гісторыю Беларусі зь сёньняшняй Расеі

Усе мы ведаем, што да 1991 г. усе "афіцыйныя" погляды на гісторыю Беларусі цэнзураваліся і зацьвярджаліся ў Маскве. Толькі пасля краху камуністычнае сыстэмы, нарэшце, з Канстытуцыі Беларусі зьніклі словы "Да 1917 году Беларусь ніколі ня мела сваёй дзяржаўнасьці". Узьніклі ўмовы для таго, каб беларускі народ даведаўся праўду пра сваю гісторыю.

А што наконт нашае гісторыі пішуць у сучасных расейскіх падручніках? Працытую вытрымку з аднае новае расейскае кнігі. Гаворка тут ідзе аб падзеях восені 1939 г.:

*"Воссоединение народов Западной Украины и Западной Белоруссии с Россией в единую государственность было завершением их многовековой борьбы за восстановление исторической справедливости, поскольку вся территория от Гродно, Бреста, Львова и Карпат - исконно русские земли, веками служившие ареной для одной из самых длительных и непримиримых войн в истории человечества между польской шляхтой и русским народом. Исторический «спор славян между собой» не был обычной войной соседей за право обладания территорией, а имел иную подоплеку: столкнулись две взаимоисключающие национальные идеи.*

*Движущая сила поляков - католический фанатизм в его крайнем, иезуитском выражении - заставлял их с маниакальным упорством добиваться одной цели: уничтожения русского народа как нации, но прежде того - искоренения в нем православия. В ход шли любые средства: выдвижение и поддержка самозванцев на русский трон, военные интервенции, "революционная пропаганда" внутри России, неслыханный по жестокости геноцид православных на территории нынешней Украины и Белоруссии, входивших до конца XVIII в. в состав Речи Посполитой (так называемая Западная Русь, или Русская Польша)".*

Вось так, зразумелі? Такім чынам, і паўстаньні пад кіраўніцтвам Касьцюшкі, Агінскага, Каліноўскага - гэта ўжо не "выступления народа против самодержавия", як лічылася ў Расеі пры камуністах, і ніякая там не "национально-освободительная борьба угнетённых наций", а эпізоды з "одной из самых длительных и непримиримых войн в истории человечества между польской шляхтой и русским народом" - езуіцка-масонская змова супраць Сьвятой Русі й Праваслаўя!

Можа, гэта цытата - з чарговай брашуркі РНЕ (Русского национального единства)? Не, гэтыя абзацы ўзятыя мной з падручніка "**Новейшая история отечества. XX век.** Учебник для вузов в двух томах под редакцией доктора исторических наук, профессора А. Ф. Киселёва и доктора исторических наук, профессора Э. М. Щагина, пособие, официально рекомендованное Министерством образования Российской Федерации в качестве учебника для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности "История", Москва, 2000 г."

Вось што будучыя расейскія гісторыкі павінныя ведаць і выкладаць сваім вучням пра адносіны Расеі з нашай Радзімай - " Западной Русью, или Русской Польшей - исконно Русскими землями от Гродно и Бреста ".

**Яўген Ліцьвін зь Вільні**

# ПРА ЗЬМЕЯ ЛУКУ, ПРА ЧЫСТУЮ РУКУ ДЫ ПРА МЕХ ПАНЦАКУ




Паслухайце, дзеткі, людзі дарослыя й людзі старыя. Дзеілася ўсё гэта ў краіне, якую называлі Лукаморыяй. Не таму, што там мора было. А таму, што валадарыў там Зьмей Лука, які народ свой падуладны зусім замарыў. Зьмеемто яго потым празвалі. А спачатку, як на пасад паклікалі, называўся ён Усенараб. Усенародна абраны, значыць. "Усе на работу!" - увесь час крычаў, дык мо яшчэ й таму. Суседзі на гэтае царства дзіваваліся, і сьмяяліся, і шкадавалі, і дапамагаць простым людзям спрабавалі.

Народ у Лукаморыі, ведаеце, рахманы, працавіты ды паслухмяны, але надта-ж баязьлівы. Усё "мая хата з краю" ды "мая хата з краю". Але чым вылучаўся, дык гэта гумарам. І зь сябе пасьмяецца і з суседзяў, а ўжо як мянушку каму прылепіць, дык тая аж да сьмерці не адлепіцца. Вось так адно аднога па мянушках і ведалі.

Як ён выглядаў, той Зьмей, пытаецеся? Звычайна. Да чалавека падобны. Даўгі, лысы. Голы чэрап трыма валасінамі прыкрыты. Вусы чорныя, разложыстыя, каб заечую губу схаваць. Голас сіпаты, як у таго, каму пранцы ўжо нос праелі. А кулакі! Бацюхны мае! Зірнеш толькі - каленкі ўгінаюцца. Кажуць, нетутэйшая маці ў яго была. На імя ці то Капаэса, ці то Асэса. А бацька - дык зусім карла нейкая барадатая. А так, з выгляду, зусім як чалавек. Жонку й дзеці быццам-бы меў, але пры ім людзі ня бачылі, хаваў недзе далёка. А да жанок быў ласы, ня дай бог! І яны яго, зьмея лысага, любілі. Зьбяруцца кучаю ды равуць немым голасам: "Мы очань любім нашава Ўсенараба!" А не дык каторая дурніца: "Хачу рабёнка ад Лукі! Хачу зьмяёныча!" Жыла непадалёк русалка на дубе. Такая, значыцца, голая баба з рыбіным хвастом. Дык і тая вішчэла: "Хачу Луку на суку!". Пачулі неяк Зьмеевыя памагатыя, дык празь дзень ні дуба, ні русалкі. Ня так зразумелі пра "сук".

Асабліва-ж любілі Луку-Ўсенараба старыя кабеты, дзяды мэдальныя ды п'яніцы вясковыя. Як на пасад яго клікалі, дык ён такога наабяцаў! Казка, за маю прыгажэйшая. І злодзеяў паразганяе, і кілбасаў танных наробіць, і гарэлку ў краны пусьціць замест вады гарачай, бо яна зімою, пэўне-ж, лепей грэе. А ўжо старым, каторы да шасьцідзесяці гадоў дажыве, дык крышталёвыя сральні із залатым седалішчам, мяккім ды падагрэтым, з падціраччкаю. Але не дажывалі людзі да шасьцідзесяці, выміраў пацІху народ.

А як-жа ён кіраваў-валадарыў, ці адзін, ці з памагатымі? А во раскажу. Галоўны памагаты ягоны зваўся па-простаму: Ярмо-На-Шыі. Зразумела, на чыёй. Любіў ён іх мяняць-перастаўляць, памаганцаў сваіх. Да Ярма галоўным ў Зьмея быў нейкі Блінт, а да Блінта - Чуфыр, а да таго - яшчэ цэлая плойма, народ і прывыкнуць не пасьпяваў. А яшчэ ў ягонай хеўры былі Шэльма ды Падмятайла, Мясьнік ды Лапайтупа. Гэны дык зусім няведама што. Як загадае яму нешта Зьмей, дык той лапай тупне ("Слушаюсь", значыць) і бяжыць выконваць. Вялікі спэц быў суседзяў аббрэхваць.

Яшчэ была ў Зьмея-Лукі славутая целябудка. Называлася так, бо там колькі гадоў Зьмеевае цяля гадавалася, па мянушцы Кампот. А як вырасла ды рожкі паказала, ды слухацца перастала, дык Лука яго на кілбасы адправіў, свайго-ж Мясьніка меў. А народ той дасьціпны як сказаў "цялябудка", дык і па сёння так называюць, хоць гадуюцца ў ёй ужо новыя жыльцы: тры сабакі злыя, беспародныя, кундлі па-нашаму. Аднаго кундля празвалі Азьвяронак, бо зьвярэў ад брэху, на людзей кідаючыся. Другога - Сын Зьмяёўскі, ці проста Зьмяёўскі. Гэты, хоць і любімы быў у Лукі, але ніякі ня сын, бо Зьмей быў чорны, а гэты - бялюткі, як снег. Ніколі-б не паверыў, што ў такога белага сабакі столькі жоўці ды сьліны ў пашчы. Як набрэшацца, дык аж губа ніжняя адвісае. А пра трэцяга нічога канкрэтна сказаць не магу. Проста страшненькі быў, дык і празвалі Квазімодка. Брахалі спраўна, і зранку, і нанач, і паасобку, і ўтройцу. Гаспадарыў гэтай псярняй яшчэ адзін памаганец Зьмееў, Чыкірыка мянушка яго. Казалі, далёкі сваяк Лукі, па маці быццам, па той Капаэсе. Яшчэ стаяла каля целябудкі высачэзная целяелка. А на елцы гэнай любіла сядзець варона царская-гаспадарская па мянушцы Жмінда Дрышчова. Жмінда - усім зразумела, але Дрышчова? А вось чаму. Як убачыць унізе, пад елкаю, чалавека харошага - абавязкова абдрышча.



І радуецца, крыламі лапоча, каркае на ўсё горла, каб гаспадар пачуў.

Жылі людзі пад Лукою ўжо шмат гадоў. Панцак ды бульбу елі, усё салодкай будучыні чакалі. Марнелі, худзелі, а ўсё яшчэ верылі. Зьмей-жа не дурны быў.

У акадэміях вучыўся, нават тры словы замежныя ведаў: "хальт", "хэндэхох" ды "орднунг". То ворагаў якіх знойдзе, заб'е, то жулікаў навыдумляе, па турмах расьпіхае, то салодзенькіх цукерак дзяшовых, пад назвай "Абяцанкі", на плошчах параздае. З салодкай цукеркай дык і сухі панцак у горла пралезе. Усіх ворагаў сваіх Лука пазабіваў-паразганяў, няма з кім біцца, няма на каго беды-нястачы зваліць. Адзін толькі ўцёк-выратаваўся, самы моцны, народам паважаны, чэсны ды справядлівы. Схаваўся ў пушчах замежных і прапаў. І дзе ён цяпер? - ніхто не ведае.

А да таго часу, пра які я баю, усе сваякі Зьмея Лукі, нашчадкі карлы барадатай, дзе ні панавалі, - пазьнікалі. Каторага людзі забілі, каторы сваёй сьмерцяй памёр, хтосьці ў нару зашыўся, а хто й перахрысьціўся, да народа схіліўся, свой у дошку зрабіўся. І застаўся Лука адзін, бяз ворагаў і без сваякоў, і што рабіць далей, як кіраваць-панаваць, ня ведае. Ужо й цукеркі "Абяцанкі" ўсе паелі дый панцаку адзін сьвіран астаўся. Чым карміць шэльмаў-памаганцаў, сабакаў ды варону любімую - немаведама, пра згаладалы народ не гаворачы. А тут яшчэ зьявіўся аднекуль малады прыгажун у акуратным пінжачку ды з гальштукам. Разумны ды адукавны, а гаваркі - што салавей пяе. Сапраўдную ягоную хвамілію ды імя мала хто й ведаў. Мо Сьняданка, а мо Гулянка. У народзе яго празвалі Чыстая Рука. Рука, але ня рукі. Бо гаварылі аб правай руцэ, якая шлях паказвае, і піша нешта, ці лыжку трымае. Што ні возьме гэная рука, вугаль ці дзёгаць, гною жменю або проста гразі, - ўсё роўна чыстая без вады й мыла застаецца. Кажуць, грошы мацней за ўсё пэцкаюць. Ці брала тая рука грошы - ніхто ня ведае. Але я так думаю: калі ад добрага чалавека ды на добрую справу - чаму-б і ня ўзяць? І я узяў-бы, ды хто мне, старому прайдзісьвету, дасьць? Во левую руку ў таго Сьняданкі ніхто толкам і ня бачыў. То ў кішэні яна (вядома, уласнай), то за пазуху закладзеная, або за сьпінаю, і што ў той руцэ, ці чыстая яна - немаведама.

Пачаў Чыстая Рука са Зьмеям варагаваць, народ той рахманы на бой клікаць. Сабраў войска адумысловае, шматлікае. Ён сам зь сябрамі, Сядзяка з хаўрусьнікамі, маладзёнаў кучка. А яшчэ далучыліся Ахвіцэр з сотняю, Гусятка з коньмі, Мухамор з Прахвэсарам, таксама Чуфыр з жонкаю і, нарэшце, Банкір з машонкаю. Машонкаю калісь у тых краёх мяшэчак з грашыма называлі. Як убачыў просты народ столькі людзей знакамітых, таксама набег, шмат набралася. Хадзілі па вуліцах са сьцягамі прыгожымі ды карцінкамі адмысловымі, песьні сьпявалі, хорам крычалі, усё больш пра Зьмея гідкага ды Лукаморыю мілую.

А ў Лукі-Зьмея было войска жабінае, пярэстае. Замест галоў - каўпакі зялезныя, замест рук - палкі гумовыя, на нагах капыты. Называлася гэтае войска Гам-Хап. Гам - бо жэрла неўправарот, а наеўшыся - людзей за нішто хапала ды ў норы свае зацягвала. Кінецца той Гам-Хап на хадакоў са сьцягамі, наб'е палкамі гумовымі, асалоду атрымае, нажарэцца ўдосталь і сьпіць, лой нагульваючы.

Пакаштаваўшы ўдосталь кашы гумовай ды з капытамі, вяртаўся народ да хатаў, да панцаку, да целяскрынак, што ў кожнай хаце былі. Глядзеў у тыя скрынкі, сіняк і гузы абмацваючы. Зажылі-загаіліся сінякі ды гузы - ізноў людзі зьбіраюцца, па вуліцах ходзяць, пра Зьмея нешта крычаць. Ізноў Гам-Хап з нораў выскоквае, на людзей кідаецца, і так год за годам.

Тым часам панцаку ў сьвірне ўсё менее й менее. Ужо адзін мяшэчак застаўся, на ўсіх пэўна-ж ня хопіць. А як панцак скончыўся, дык і сабакі Зьмеявыя разьбегліся, і варона Дрышчова ў вырай уцякла, і памаганцы ў далёкія краіны зьехалі, куфры з грашыма прыхапіўшы. Даведаўся Зьмей пра такое - і сам адляцеў на вінталёце да сябры барадатага на цёплы востраў. Застаўся народ без галавы, без Усенараба, значыць. Каго-ж паклікаць на пасад? І Прахвэсар хоча, і Чуфыр лезе, дый Ахвіцэр з Банкірам ласыя, пра Мухамора не кажучы. Ды людзі іх ня хочаць. Зьбяруцца й гукаюць: "Сьняданку на пасад! Сьняданку хочам!". Вядома-ж, згаладаліся, нават сапраўднае прозьвішча Чыстай Рукі раптам успомнілі. А Сьняданка ў адказ: "Не хачу пэцкацца, я - Чыстая Рука". І не пайшоў. У навукі кінуўся, пачаў народ пісаць-чытаць па-сапраўднаму вучыць, ды словы, як трэба, вымаўляць, бо за Зьмеевае панаваньне зусім развучыліся. Крычэлі людзі крычэлі, раіліся-спрачаліся і пастанавілі ўрэшце без Усенараба абыходзіцца, талакою кіраваць. Парляманцкаю рэспублікаю назваліся. Так і жывуць цяпер, дзетак плодзячы, пацІху мяса нагульваючы.

Пра Зьмея пытаецеся? А злавілі яго-такі - суседзі добрыя памаглі. Прывезьлі ў галоўны горад, у галоўным палацы зьмясьцілі, у адмысловай клетцы сядзіць. З чорнага шэры зрабіўся, лысы зусім, але такі самы злосны ды сіпаты. Хто ў палац заходзіць, абавязкова на яго плюне, а не дык і палкаю кіне. Нехта й хлеба дасьць, ці сала кавалак. Шкадуюць, пра благое забыліся. Народ жа там ведаеце які? Талерантны называецца. А што гэта значыць - у вучонага Сьняданкі спытайцеся.

*Усё гэта бачыў, у людзей падслухаў, у кніжках-газэтках прачытаў дый сёе-тое навыдумляў і вам распавёў*

***Кручок з Ратнеяў***

# Любімыя рэчы

Я люблю піць гарбату з цытрынай. Люблю зьмешваць гаркавы смак з кісьлёю. Люблю назіраць, як мяняецца колер майго чорнага напою - ён становіцца сьветла-бурштынавы. Ну й вядома - водар. Калі выбіраю гарбату, найперш шукаю, каб мела добры водар, а з гэтым цяжка. Яе трэба распакаваць, запарыць - толькі тады распазнаеш, а верыць выхваленьням на этыкетках ня варта. Цяпер, праўда, зьявілася адно месца, дзе можна знайсьці добрую гарбату. На праспэкце Гедыміна адкрылася адмысловая крама, дзе можна выбраць сабе кожны гатунак, папрасіць - табе запараць кубачак, і калі гэта акажацца тое, што ты хацеў - купіць цэлы пачак.

Дык вось - я стараюся набыць добрай гарбаты, пачараваць-запарыць як сьлед, дадаць скрылёчак цытрыны, - і тады ўжо млець ад асалоды.

Так, люблю я гарбату з цытрынай. У мяне нават на кубачку для гарбаты намаляваная цытрына. І калі ў мяне няма цытрыны, я ўсё роўна п'ю гарбату з... цытрынай.

А яшчэ я люблю піць гарбату з сонейкам. Калі не пахмурна, сонца цэлую раніцу сьвеціць у вакно маёй кухні. Тады я наліваю гарбату ў празрыстую шклянку й нейкі час вагаюся - шкадую адразу выпіць - так прыгожа!

А больш за ўсё я люблю піць гарбату зь сям'ёю й зь сябрамі.

***Сьцяпан Дзінь-Дзілевіч***



## Цьві Колітц

# Зварот да Бога Ёзеля Ра[illegible]



*Заканчэньне. Пачатак у N34, N35*

Калі тыя, што мяне ненавідзелі, забівалі, гэткія дрэнныя, хто тады я? Хто тады, калі не я, панясе Тваё Сьвятло і Тваю Дабрыню?

Я не хачу ўсхваляць Цябе за твае Дзеяньні. Я бласлаўляю і ўсхваляю Цябе за Тваё Існаваньне, за Тваю страшэнную Велічыню. Якая яна мае быць велізарная, калі нават тое, што зараз адбываецца, ня робіць на Цябе вялікага ўражаньня!

Але менавіта таму, што Ты такі Вялікі, а я такі малы, я Цябе папярэджваю: слухай, Твая Велічыня тым укаранаваная, што Ты дазваляеш караць няшчасных.

Я не прашу Цябе таксама, каб Ты караў вінаватых. Маецца жудасная лёгіка ў незваротнасьці таго, што адбываецца. Усё дойдзе да канца, калі, дзякуючы нашай сьмерці, будзе забітае сумленьне сьвету. Сьвет будзе забіты ў сьмерці Ізраіля.

Сьвет праглыне сваю ўласную злосьць, утопіць яе ў сваёй уласнай крыві.

Забойцы вынесьлі прысуд самастойна, і яны не пакінуць нас у спакоі. Але Ты казаў пра абвінавачы вырак. Не хавай забойства!

Кожны, хто адчуў ужо сьмерць на сваіх вуснах, мае зараз у сэрцы радасьць.

Кожны з нас сказаў у сваім сэрцы: "Так, ён робіць дрэнна, Тыран, але ён робіць за нас кавалак працы, і мы павінныя быць яму ўдзячныя за гэта".

У Тваёй Торы напісана, што злодзей павінен быць строга пакараны за разбой, незважаючы на тое, што ён нападаў на сваю ахвяру толькі дзеля таго, каб завалодаць ейнай маёмасьцю, а не пагражаў ейнаму жыцьцю.

Рабаўнік нападае на сваю ахвяру пасярод белага дня. Ён мае перад людзьмі гэтак мала страху, як і перад Богам.

Злодзей баіцца людзей, але Бога -- не. Таму ён павінен атрымаць такое самае пакараньне, што й рабаўнік. Але мне не зразумела, чаму, калі Ты ставісься да рабаўнікоў, як да забойцаў, чаму іхныя чыннасьць супраць Цябе й нас працягваецца? Яны ня робяць сакрэту з сваіз забойстваў і злачынстваў.

Але тых, хто хавае забойства, хто не баіцца злодзея, але баіцца таго, што будуць казаць людзі (дурні, яны не ведаюць, што людзі ўжо больш не гавораць), тых, хто сваю пакуту дэманструе з асалодаю й адмаўляе ратавацца, тых, о тых, заклінаю Цябе, мой Божа, ты павінен пакараць, як злодзеяў!

Я не магу больш чакаць сьмерці, але я павінен дапісаць свой ліст да канца. Агонь на мяне абрыньваецца з усё большай сілай. Ужо вынесены прысуд апошняму абаронцу нашае крэпасьці, а зь ім упадзе й пампрэ вялікая, прыгожая, набожная жыдоўская Варшава. Ужо заходзіць сонца, і Бог ня ўбачыць маёй удзячнасьці Яму.

Водбліскі агню пранікаюць цераз вакно, і бачу кавалачак неба, якое сваёй чырваньню падобнае да крыві. Гадзіна, ня больш, і я буду разам з маёй сям'ёю -- і зь мільёнамі іншых прадстаўнікоў майго народу -- у лепшым сьвеце, ня будзе больш размоваў, а будуць толькі Рукі Бога.

Я паміраю спакойна, радасна, але я паміраю не заспакоеным, не ўзрадаваным; я паміраю пераможаным, адрынутым, але не ператураным у раба; удзячным, але не расчараваным. Я быў крэдыторам і вернікам, не застаўся нічога нікому вінны, нічога ні ў каго не прасіў. Каханы Божа, яшчэ не сьляпыя Твае малітвы.

Я Табе саступіў, калі Ты мяне ўдарыў. Я выконваў Твае Запаветы, нават тады, калі Ты мяне караў. Я любіў цябе, я быў у Цябе закаханы й застаўся з Табою нават тады, калі Ты даваў мяне да сьмерці, дазволіў зьдзеквацца зь мяне й ганьбаваць мяне.

Мой Рабі распавёў мне гісторыю пра аднаго жыда, які ратаваўся з жонкаю й дзіцём ад іспанскай інквізыцыі, і выплыў у штармавое мора ў прабітай наскрозь маленькай лодцы. Яе выкінула на камяністы востраў. Там маланка забіла жонку. Потым вялізная хваля падхапіла дзіцяці й панесла ў мора. Адзінокі, нібы камень, голы й босы, напалоханы громам і маланкамі, ідучы па бязлюдным востраве з растрэпанымі валасамі й працягнутымі да Бога рукамі, зьвярнуўся ён да Яго:

"Бог Ізраіля, я зьбег сюды дзеля таго, каб мог служыць Табе, выконваць Твае Запаветы і ўслаўляць Тваё Імя. Аднак Ты зрабіў усё, каб я перастаў Табе верыць. Ды калі Ты лічыш, што гэта ўдасца, што Ты здолееш гэткімі выпрабаваньнямі адвярнуць мяне ад правільнага шляху, крычу я Табе, мой Божа й Бог маіх бацькоў: Табе гэта не дапаможа! Ты можаш мяне крыўдзіць, Ты можаш выводзіць мяне зь сябе, Ты можаш адабраць у мяне самае Дарагое й Лепшае, што я маю ва ўсім сьвеце, і пасласць мне сьмерць, -- я заўсёды буду Табе верыць. Я заўсёды буду Цябе любіць -- Цябе, незважаючы на ўсё гэта!"

І гэта таксама й мае апошнія словы да Цябе, мой Гнеўны Божа: гэта -- Табе зусім не на карысьць! Ты ўсё зрабіў, каб я Табе ня верыў. Але я паміраю менавіта так, як я жыў - зь непахіснаю вераю ў Цябе.

Павінен быць ухвалены навекі Бог Сьмерці, Бог Помсты, Бог Ісьціны й Суда, які хутка зноў паверне Свой Твар да сьвету й расставіць усё на свой капыл.

"Шама Ізраіль! -- Слухай, Ізраіль! Госпад твой ёсьць наш Бог. Госпад Адзіны! У Твае Рукі, о Госпад, аддаю я маю Душу!"

*Прадмова й пераклад зь нямецкай*
**Лілеі Сазанавец**



**"Сьвятая сям'я"**
так будзе называцца каплічка, якую будуюць сябры ТБМ Віленскага краю на хутары Вашунава Докшыцкага раёну. Пры каплічцы плянуецца збудаваць Крыжовую Дарогу (мініятурную Кальварыю). Просьба ахвяраваць на гэтыя мерапрыемствы, хто колькі можа, і дапамагчы нам выкупіць у касьцёла 14 абразоў, якія будуць усталяваныя пры Крыжовай Дарозе. (Кошт аднаго абраза - $ 15). Асьвенчаньне каплічкі й Крыжовай Дарогі запляніванае на будучую весну.

**Юры Гіль**

**Шмат чужога дзядоўніку**
ў нашай тапаніміцы. Верацеі, вёска ў якой я нарадзіўся, каторую аўтар артыкула П. Саўчанка згадвае (арт. "Кастусю Акулу - 75", "Рунь" N35 - *заўв. рэд.*), астаецца із сваёй чыста беларускай назвай, бо там была толькі адна рыма-каталіцкая сям'я - г. зв. "касьцельныя палякі", што ня ўмелі папольску гаварыць. Іншая гісторыя назвы "Каралеўшчыны" (у арт. "Круляўшчызна" - *заўв. рэд.*). Памятаю такі выпадак. Чалавек старшага веку пытаецца ў мяне:

-Дзе тут, сынку, дарога ў Славіна?
-Славіна? Я, дзядзька, такога ня чуў.
-Станцыя гэта, чыгуначная, як яе цяпер зваць?
-Крулеўшчына, ці Крулеўшчызна па-польску?
-Яна, яна мусіць! Каб іх чорт адсюль пагнаў, гэта "пшэкі", відаць, на свой лад перакруцілі!

Прыгадваю, што тых "пшэкаў" (узгаданых мною "касьцельных палякаў") у Каралеўшчыне было шмат. Галоўныя-ж службовыя чыгуначныя, школьныя, адміністрацыйныя ды паліцыйныя пасады былі ў руках чужнікоў, наехаўшых сюды з Польшчы. Нас, "тутэйшых", называлі "хлопамі" й "хамамі".

Чаму-ж нам цяпер яшчэ ўжываць чужы дзядоўнік: "Круляўшчызна" заміж нашага "Каралеўшчына"? Навошта нам чужое "Германія", калі маем сваё "Нямеччына"?
Дзякую Паўлу Саўчанку за ягоны артыкул, але-ж навошта такое (бяру зь ягонага артыкулу): "Былі... служба ў брытанскай Арміі, бітва ў Афрыцы пры Касыно ў радох легендарнай арміі Андэрса..." У Афрыцы я ня быў, пад Монта Касыно ў Італіі, разам з групай жаўнераў, быў праездам у красавіку 1945 г., ужо пасьля нашай перамогі над Гітлеравым Вермахтам у Італіі.

Дзякую сп. Паўлу Саўчанку й іншым суродзічам за віншаваньні й пажаданьні з нагоды майго 75-годзьдзя. Газэце "Рунь" - добрага росту, а яе супрацоўнікам - якнайлепшага здароўя й посьпехаў у будучыні. Да сустрэчы ў запраўды незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы!

Жыве Беларусь! Бог з намі! Мы з Богам!

Жадаю вам радасных Калядаў і якнайлепшага Новага Году!

**Кастусь Акула**
*Канада*

**Маё пажаданьне**
Канчаецца XX стагодзьдзе. Беларусь і ейны народ заслугоўваюць годнага жыцьця, а краіна павінная заняць свой пачэсны пасад сярод іншых краінаў Эўропы. Беларусам патрэбны не Дыктатар, а Прэзыдэнт. У 2001 г. адбудуцца выбары новага кіраўніка краіны. Якім-жа павінны быць наш новы Прэзыдэнт? На маю думку ён павінны а) быць беларусам і хрысьціянінам, бо Беларусь павінная быць беларускай, хрысьціянскай краінай; б) быць патрыётам, каторы шануе родную мову, нацыянальныя сымбалі, нашую гісторыю, культуру; в) быць гарантам эканамічнай і палітычнай незалежнасьці краіны; г) быць прэзыдэнтам бязьядзернай краіны; д) клапаціцца аб дабрабыце людзей; е) вярнуць зямлю ейным уласьнікам - сялянам; ж) зрабіць так, каб грамадзяне краіны пачувалі сябе бясьпечна й свабодна; з) спыніць "прыхватызацыю". Такім аўтарытэтным і высокамаральным кандыдатам у Прэзыдэнты у лічу народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава!

**Юры Гіль**

**У Калінінградзе**
9 сьнежня ў Палацы культуры маракоў адбылася вечарына, прысьвечаная 650-ым угодкам з дня нараджэньня Вітаўта Вялікага, аднаго з найбольш слынных гаспадароў нашай старажытнай дзяржавы-Вялікага княства Літоўскага. Арганізатарам ейным выступіла рэгіянальная грамадзкая арганізацыя "Беларускае культурнае таварыства". Прысутныя змаглі ўбачыць старажытныя сымбалі нашага народу, выявы Вялікіх князёў, выданьні, прысьвечаныя Вітаўту й ягонаму часу. Вечарыну адкрыў старшыня таварыства сп. Шаховіч, які акрэсьліў жыцьцёвы шлях Вітаўта. Сябра таварыства сп. Якубоўскі распавёў аб шанаваньні памяці князя беларускімі татарамі, якія парушылі нават ісламскія традыцыі ды зьмясьцілі выяву Вітаўта у мячэці. Найбольш цікавай была размова зь беларускім гісторыкам Уладзімерам Соснам даклад якога аб этнагенэзе беларусаў ды нашай гістарычнай спадчыне шмат каму дапамог пазбавіцца ідэалягічна засьмечаных тэорыяў савецкай эпохі (да прыкладу аб "балцкім заваяваньні" й пад.). А потым адбыўся канцэрт, у якім сапраўдны фурор зрабіў ансамбаль таварыства "Тутэйшыя музыкі" (кіраўнік Люба Кастраміна). Уся заля ўстала, калі загучаў велічны гімн "Магутны Божа". А вось чыноўнікаў з аддзяленьня пасольства РБ у РФ чамусьці не было, хаця яны таксама былі запрошаныя на імпрэзу.

**Адам Каралявецкі.**

# НАВІНЫ З АЎСТРАЛІІ

**Чарговыя угодкі** сьвяткавала 19 лістапада БАПЦ ў Мэльбурне. Адумыслова для гэтае ўрачыстасьці ейны настаяцель айцец А. Кулалоўскі адслужыў Сьвятую Літургію, закончыўшы яе казаньню. 19 гадоў мы маем ужо сваю Царкву, хоць давялося шмат усяго перажыць у змаганьні за яе. Закончыліся ўрачыстасьці вячэрай у прыцаркоўнай залі й мастацкім канцэртам, які вёў сп. В. Русак. Дзяўчаты з нашага хору "Каліна" цудоўна выканалі некалькі беларускіх песьняў.

**Выязную маёўку** ў гістарычную мяйсцовасьць Даласфорд пад Мэльбурнам зладзілі 7 лістапада прыхаджане Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Сьвятых Віленскіх Мучанікаў, Беларускі Цэнтральны Камітэт ды клюб пэнсіянэраў. У свой час, пры пошуках золата, насельніцтва тут дасягала колькасна 30 тыс. і ўсе хацелі быць шчасьлівымі.

Сёньня Даласфорд паранейшаму вельмі цікавая мяйсцовасьць, як сваёй гісторыяй, гэтак прыроднымі багацьцямі, маляўнічым ландшафтам: лясьнымі й гарыстымі масывамі, якія прыцягваюць турыстаў з цэлага сьвету. Беларуская грамада Мэльбурну зладзіла сваю маёўку ў фэрме, якую ёй ласкава прадаставіў наш беларускі дзеяч Ф. Корбут. Фэрма месьціцца сярод лесу, у каторым шмат прыродных







крыніцаў зь мінэральнай вадой, ёсьць вазярцо і ўсё, што трэба для пікніку. Да ўсяго гэтага выдалася пагода, а сама маёўка супала з найбольшым аўстралійскім сьвятам Мэльбурн кап. Гэта ўсё прывяло ў Даласфорд багата народу. Маёўка доўжылася да позьняга вечара, смажыліся кілбасы, шашлыкі, мяса па-беларуску. Сьпяваліся беларускія песьні, ладзіліся гульні, шпацыравалі па лесе, каштуючы мінэральную ваду. І кожны ўспамінаў сваё дзяцінства ў любай Беларусі, ейныя незабыўныя краявіды.

**80-годзьде Слуцкага Збройнага Чыну** адзначаў наш БЦК супольна з парахвіянамі БАПЦ. Падчас малебну за беларускі народ айцец А. Кулакоўскі зазначыў, што гэтае сьвята ёсьць вельмі сумнае, і дзе толькі не ляжаць беларускія косьці як ведамых, гэтак і няведамых патрыётаў, што аддалі жыцьцё за Бацькаўшчыну. З гэтае нагоды зьвяртаюся да ўсіх суайчыньнікаў у сьвеце:

*Дарагія суродзічы на Бацькаўшчыне й эміграцыі! Віншую вас з 80-мі ўгодкамі Слуцкай Абароны. Пасьля даўгіх стагодзьдзяў няволі Акт 25 Сакавіка агарнуў Беларускі Народ надзеяй на лепшую долю й сьветлую будучыню. Але прагавіты імпэрыялізм Масквы паслаў на Беларусь орды бальшавіцкай арміі, каб зноў налажыць путы няволі на наш свабодалюбны Народ. Супроць крывадушных мілітарных плянаў Масквы, у абароне свабоды й незалежнасьці, збройна выступіла Случчына. І хаця ў няроўнай барацьбе, праліўшы кроў і не асягнуўшы мэты, героі Случчыны палі ахвярай, яны сваім гераічным Чынам паказалі ўсяму сьвету, як беларусы любяць свабоду й волю ды цэняць яе даражэй паняволенага жыцьця. Масква, крывава задушыўшы бязстрашных абаронцаў Радзімы й налажыўшы кайданы няволі на Беларускі Народ, штучна створаным сурагатам БССР жорстка вынішчала ўсё нацыянальнае беларускае, уключна з мовай і беларускімі патрыётамі. Ад гэтай ганебнай жудаснай чысткі загінулі мільёны лепшых сыноў Маці-Беларусі, але ня зьнішчылі ў душы Беларусаў любові да свабоды й волі, жаданьня абараняць гэтыя сьвятыя ў жыцьці чалавецтва прынцыпы.*

*Пры першай магчымасьці Беларускі Народ праяўляў нязломную волю скінуць накінутае яму чужацкае ярмо. Так у часе II Сусьветнай вайны, наражаючы сваё жыцьцё на небясьпеку, 27 чэрвеня 1944 г. ў Менску сабраліся 1039 дэлегатаў 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу й аднагалосна прынялі рэзалюцыю, каторая выкрыла перад сьветам усю ману, сеяную нашымі ворагамі пра Беларусь. Тадыж было абранае й цэнтральнае кіраўніцтва - Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР), якая мусіла дзейнічаць да часу скліканьня 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу.*

*З радасьцяй можна зацьвердзіць, што вызвольнае змаганьне працягваецца. Беларускі Парлямант канстытуцыйна замацаваў 21 жніўня 1991 г. сувэрэнітэт Беларусі й 19 верасьня зацьвердзіў нашую гістарычную сымболіку: Бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". На вялікі жаль, маскоўскія шавіністы й гадаванцы свае гадоўлі ўсё, крывёю здабытае патрыётамі, патапталі й наш Народ і каханая Бацькаўшчына зноў церпяць нечуваныя зьдзекі над усім родным і блізкім, як мова, гісторыя, каторую несумленныя гісторыкі пішуць па загаду халуёў, што служаць "старэйшаму брату".*

*Успамінаючы падчас Божае службы і ўрачыстых акадэміяў герояў-случчакоў, успомнім усіх нашых жаўнераў Беларускае Краёвае Абароны, якія аддалі сваё жыцьцё за Вольную Беларусь. Успомнім і памолімся за ўсіх, хто змагаўся й загінуў з надзеяй, што гэтае змаганьне прынясе Вольнасьць і шчасьце нашаму Народу й Бацькаўшчыне.*

*Вызвольная барацьба Беларускага Народу трывае далей, і мы моцна верым, што супольнымі сіламі наш Народ здабудзе вольнасьць і незалежнасьць для каханай Беларусі й што над Домам Ураду ў Менску зноў стане лунаць наш Бел-чырвона-белы сьцяг. Вечная слава й памяць героям Случчыны і ўсім беларускім патрыётам, што злажылі сваё жыцьцё на алтар Бацькаўшчыны, каб жыла Беларусь!*

*Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў штаце Вікторыя*

**Павал Гуз**

*Мэльбурн*

**У Адэляйдзе (Аўстралія)** ў нядзелю, 26 лістапада, у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве былі праведзеныя сьвяткаваньні 80-годзьдзя Слуцкага Збройнага Чыну. Царква й прыцаркоўная заля былі прыбраная жывымі кветкамі, што надавала прысутным сьвяточны настрой. Літургію служыў настаяцель-пратаярэй Пятро Касацкі. Сьпяваў царкоўны хор. Мужчыны й жанчыны былі адзетыя ў вышываныя беларускія кашулі. Айцец Пятро на пропаведзі вельмі прачула казаў пра герояў-случчакоў, каторыя аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Вольная Беларусь. Напрыканцы Божае службы хор адсьпяваў беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа". Потым пачалася паніхіда. Два вайскоўцы, сп. Алек Чорнагалан і Янка Аршанскі трымалі сьцягі, беларускі й аўстралійскі. Царкоўны хор працягваў сьпяваць, а пад канец паніхіды айцец Пятро зноў гаварыў пра слуцкіх герояў, і многім пацяклі сьлёзы. Вечная памяць і пашана героям, што не пашкадавалі свайго жыцьця ў няроўным змаганьні з бальшавіцкай навалай!

**Уладзімір Акавіты**

*Аўстралія*






Новыя каляндарыкі выпусьціла ТБМ імя Францішка Скарыны. У той час, калі дзяржаўныя выдавецтвы ня выдалі ніводнага кішанёвага беларускамоўнага каляндарыка, Таварыства вымушанае было ўзяць гэтую працу на сябе. У лістападзе яно выдала 2 новыя арыгінальныя беларускамоўныя каляндарыкі на 2001 год. Першы прысьвечаны нашаму слыннаму пісьменьніку й паэту Ўладзіміру Караткевічу. На першым пляне - партрэт Уладзіміра Караткевіча, а ўнізе зьмешчаныя руіны Альшанскага замка. Аўтар працы - зямляк Уладзіміра Караткевіча, вядомы мастак Мікола Купава. Другі каляндарык адлюстраваў нацыянальны беларускі герб Пагоню. Аўтар Уладзімір Цярохін падкрэсьліў няўміручасць нашага старадаўняга герба. Легендарная Пагоня ад сівых Мірскіх муроў сягае ў будучыню - трэцяе тысячагодзьдзе! Каляндарыкі можна знайсьці на кніжнай выставе ў сядзібе ТБМ па адрасе: *Менск, вул. Румянцава, 13* (каля станцыі мятро "Плошча Перамогі). Час працы: 13.30-19.00, апроч нядзелі.

**Алесь Сабаленка**

*Менск*

## Шаноўныя чытачы!

*Шмат у каго з вас ужо скончылася падпіска на нашую газэту, некаторыя й зусім не падпісаліся. Нашым чытачам зь Беларусі й краінаў СНД, каторыя з прычыны цяжкога матар'яльнага існаваньня ня маюць сродкаў на падпіску, мы й надалей будзем высылаць газэту бясплатна. (Адна толькі просьба, каб вы часьцей пісалі нам, ці хаця-б паведамілі, ці даходзіць да вас газэта). А вось да астатніх нашых падпішчыкаў вялікая просьба: падпішыцеся! Падтрымайце адзіную беларускую газэту ў нашай старажытнай сталіцы Вільні! Умовы падпіскі ранейшыя:*

Чытачы далёкага замежжа могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНГ** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
*«Рунь»*
*2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania*
*e-mail: nicka@takas.lt*

## Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| **К. Акула** з Канады | $ 30 |
| **А. Міцкевіч** з Амэрыкі | $ 20 |
| **Р. Завістовіч** з Амэрыкі | $ 20 |
| **М. Смаршчок** з Амэрыкі | $ 50 |
| **М. Галоўка** з Амэрыкі | $ 30 |
| **К. Вініцкая** з Амэрыкі | $ 50 |
| **А. Садоўскі** з Аўстраліі | AUD 50 |
| **У. Акавіты** з Аўстраліі | AUD 50 |
| **В. Мілянцэвіч** з Аўстраліі | AUD 200 |
| **М. Баяроўскі** з Англіі | GBP 80 |
| **С. Будкевіч** з Англіі | GBP 20 |

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
адрас рэдакцыі
*Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania*
тэлефон, факс: (+ 370 2) 42 38 02
e-mail: nicka@takas.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
**Алег Аблажэй** – мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** – аддзел гісторыі
друк "Spauda",
наклад 1000